ЖОНКА

*абкручваючы нагу, параненую аржоньнем*

Не палі агнём
Гэтак, сонейка!
Не калі мне ног
Так, аржонейка!

Трудна сьпіну гнуць
Спрацаваную,
Каласы зьбіраць
Паваляныя.

Дабрыцом-сьцяной
Не пахвалішся,
Кроў і пот ліеш,
Заліваешся.

Ўсюды бог гасьціў
З сваёй ласкаю,
Толькі крыў, мінуў
Ніву хамскую.

МУЖЫК

Ўжо каса мая
Прытупілася:
Не бярэ сіўцу,
Замарылася.

Пакляпаць пайду
Там на межачцы
І бруском зьвяду,
Як належыцца.

Ды ў ход зноў пушчу
Пад песьнь сьлёзную,
Хай зноў бачыць сьвет
Сілу грозную.

ЖОНКА

*выцягваючы стрэмку з пальца*

Дзіцянё ў казлох
Адзываецца;

Пагляджу, пайду,
Як там маецца.

Ох, каб так шнурок
Свой счырыкалі!

Ўжо за пашу ў двор
Адбыць клікалі.

МУЖЫК і ЖОНКА

*разам*

Ї жыцьцё-ж, жыцьцё
Беспрасьветнае!
Ці ня лепей ты,
Апраметная!

*Мужык садзіцца кляпаць касу, а жонка ідзе к казлом і корміць грудзёй дзіцянё.*

## VIII

## Восень

*Досьвітак. Ток. Бледная курыцца на сьцяне газоўка. Мужык малоціць. Цэп гудзе. Яму, глуха заводзячы, падцінае вецер. Дьверы адчыняюцца, уваходзіць Восень. У ваднэй руцэ трымае пук усялякіх павялых зёлак, у другой пусты мех*

ВОСЕНЬ

Я усюды хадзіла,
Я усюды была,
Як дзе што урадзіла,
Я рахунак вяла.

І к табе во зайшлася
Паглядзець, запытаць,
Як ты жыў, як спраўляўся,
Што відаць, што чуваць?

Вясна, Лета блудзілі
Па ўсёй чыста зямлі;
Ці-ж пароўні дзялілі,
Роўна ўроду нясьлі?

Цябе з краю да краю
Было ўсюды ўдаволь;
Даказаў дзіваў, знаю,
Твой і пот, і мазоль.

Дык як з кормам? як жыта?
Двор то мае, чым жыць:
Сенам пуня набіта,
З дабром так, аж трашчыць.

МУЖЫК

Восень, ясная пані,
Глянь! я лгаць не хачу—
Да паўзімкі ня стане,
Як лічу, ня лічу.

Няма штосьці ўмалоту,
Ды і што малаціць?
Копкі дзьве акалоту,
Грэчкі з возік ляжыць.

З копку яркі, ячменю,
Трохі сена, аўса...
Вось і хлеб, і насеньне,
І за труд плата ўся!

Пры стале-ж сядзе спорна
Спажываці дары:
Жонка, дзетак сямёра
Ды татуля стары.

ВОСЕНЬ

Праўду вашэць гамоне:
Бог ня вельмі ўспамог,
Але ты не сягоньня
Так устаў, так і лёг.

Вось і сёлета трэба
Дацягнуць да канца,
Прыкупі з пудзік хлеба,
Да пазыч з воз сянца.

Пудзік хлеба з мякінай,
Груцы, бобу крыху,
Якой бульбы асьміну—
Ці-ж ня дось мужыку?

МУЖЫК

Ну і рада, ой рада!
Дакупіць, дакупіць!..

Дзе-ж капейка у „гада“?
Дзе яго скарб ляжыць?

На насеньне, на страву
Трос вясной кішанёй,
Летам штраф за „патраву“;
Воласьць не за гарой.

ВОСЕНЬ

Як гляджу, ўсё находжу
Недастаткі адны,
Будзь здароў! я адходжу
Да суседкі Зімы.

*Выходзіць. На дварэ вецер вые штораз мацней. Каплі сьцюдзёнага дажджу шлёпаюць аб гнілыя сьцены. Мужык набірае ў рэзьгіны вязку саломы—і ідзе даваць скаціне. Дзьверы са скрыпам зачыняюцца.*

## IX

## СЬВЯТА

*Хата што і вясной. На стале ляжыць стус грачаных блінoў. На палку ляжаць двое хворых дзяцей: другія босыя і ў адных кашулёнках поўзаюць каля маткі па хаце. На печы крэкча бацька стары. Мужык сядзіць на лаве і пад нос мармоча*

МУЖЫК

Ну, ламака, ну, хамула!
Ці-ж стагнаць ня годзі?
Што мінула, то мінула,
Болей ня прыходзіць.

Пёкся, пёкся вясну, лета,
Аж толькі дзяржыся,
А цяпер спачынь за гэта
Ды павесяліся.

Трохі жонка хваравіта,
Трохі хворы дзеці,
Выпі чарку! ну і квіта!
На што там глядзеці?

Юрку варта-бы да школы,
З гора, пасылаці!
Ня шлі: будзе, як ты, голы,
Хай сядзіць у хаце...

Насьці трэба чаравікі,
Кажушок Сымонку,
Ну, на гэта час вялікі...
Пара-ж і ў карчомку!

ЖОНКА

Што ты там бурчыш пад нос?
Скрабеш каля вуха?
Ї ўдаеш паглядам косым
Вялікага зуха?

„Пагуляці... да карчомкі...“
Вось дык малайчына!
А дзе лапці ў тваёй жонкі?
Дзе дровы, лучына?

Трэба новае карыта,
Каптан Зосі трэба,
Просіць хвэльчара Мікіта—
Ўжо ня есьць і хлеба.

Не табе спачыць, хамуле,
Не табе сьпяваці,
Не да сьмеху, не да гуляў,
Калі бяда ў хаце.

СТАРАСТА

*ўваходзіць трохі падпіўшы з нейкай сьмешнай важнасьцю і строгасьцю*

Вось і трапіў к вам нарэшце...
Ну, рыхтуйся, братка!
Кішанёй мусіш патрэсьці:
Трэба нам падаткаў.

Трэба чыншу, трэба „пені“—
Быў прыказ з павету,
Каб за тыдзень непраменна
Ўнесьці дробязь гэту.

Дык спраўляйся-ж і то лоўка!
Бо ня жыць і ў хатцы,
Ї з апраткай, і з кароўкай
Прыдзецца расстацца.

МАГАЗЫНЬНІК

*уваходзіць таксама п'янаваты*

Пахвалёны вам, суседзе!
Як дуж, як здароўе?
Ўжо і зімка да нас едзе—
За даўгом прышоў я.

Аўса бочку, чвэрць ячменю,
Са дзьве чвэрці жыта,
Аддаць мусіш непраменна—
Тады будзе квіта.

МУЖЫК

Ну і што? і больш нічога?..
І дакуль так будзе?
А ні сэрца, а ні бога...
Ну жыцьцё, ну людзі!

*Хватае за шапку і ўцякае са сваёй хаты. Жонка ўцірае хусткай сьлёзы. Стараста і магазыньнік высоўваюцца на двор.*

# X

# ЗІМА

*Лес. У нізе на дрэвах вісіць кругом шэрань. Мужык у палатаным кажуху, у лямцовай шапцы стаіць па калені ў сьнезе і сячэ таўстую хвойку. Здаля прыбліжаецца Зіма. У яе: у ваднэй руцэ кавадла і молат, у другой жмут жалезных путаў. Як і дзе, молат ударае аб кавадла, а ланцугі бразгаюць*

ЗІМА

Як жыў, як жыў, як маешся?
Ці жыці не дакучыла?
Усюды я шатаюся,
І да цябе во лучыла.

Кандалікамі звонячы,
Іду к табе—ўсясільная,
На долю тваю помнячы,
Іду к табе—магільная.

Над цэлай, над старонкаю
Я паняй разгасьцілася;
Мой сьнег ляжыць пялёнкаю,
Ў мой лёд рака пакрылася.

Гуляю я з марозамі,
Гуляю я са сьцюжамі,
Сьмяюся я над сьлёзамі,
І ўсіх, і ўсё я дужаю.

Кінь выгляд акалелага,
Прысядзь во на калодачцы!
Крапчэй ты сьвету цэлага,
Ну што? Каб нам паходацца?

МУЖЫК

Ой Зімка, пані ясная!
Ня варта наругаціся,
Прытыкі кінь напрасныя:
З кім тут за плечы брацiся?

Я з сілаю разлучаны:
Ў палёх, лугох загінута...
Няўдачамі замучаны,
Пацехамі пакінуты.

Рукою чуць пакратаю;
Ня муч-жа абарванага!
Пад футры йдзі багатыя,
Ў палацы мураваныя!

Сям'я мая галодная,
Хаціна мая хіліцца.
Ідзі, Зіма нягодная!
Ня дуж з табою сіліцца.

ЗІМА

Ня дам ніколі веры я
Тваёй брахні ап'янчанай,
Што гора цябе мерае,
Што сьлёзамі ты нянчаны.

Каму-ж тут хвойкі валяцца
Рукою мазалістаю?
І шуркі каму ставяцца
На пасеку на чыстую.

Ці-ж хата з хвойкі зваленай
Ня грэта, не пастаўлена?
Ці-ж пасека ня сеяна,
Сахой тваёй абнесена?

МУЖЫК

Тады ў краі далёкія,
Як дні мінуць кароткія,
Сасоначкі высокія
Плывуць ракой-паводкаю.

Гасьцінцамі, дарогамі
У горад шуркі цягнуцца,—
Не за маймі парогамі
Скарб пасечны хаваецца.

ЗІМА

Табе жыцьцё, знаць, сьцелецца
Як-бы сама нуда тая;
Пашлю ў дабаў мяцеліцу,
Няхай з бядой рассватае.

*Адыходзіць. Пачынаецца мяцеліца. Цямнее. Хвойка падсечаная з трэскам і грукам валіцца і забівае Мужыка. Стада згаладалых ваўкоў прыбліжаецца к нябожчыку. Лес стогне.*

## XI

# ХАЎТУРЫ

*Хата. Насупроць дзьвярэй у белай дамавіне ляжыць Мужык. Сталяр раскідае палок, бярэ дошкі з яго і робіць века к дамавіне. За сталом суседзі пяюць па нябожчыку. Жонка галосіць і прыгаварвае. Дзеці хліпочуць. Стары бацька, крэкчучы, злазіць з печы. Мяцеліца шуміць. У коміне жаласьліва вые вецер*

ЖОНКА

А мой ты сакалочак!
А мой ты каралёчак!
Ляжыш, ня ўстанеш болей...
О, доля-ж мая, доля!

Бяз часу сьмерць-магіла
Жыцьцё тваё скасіла;
Ў няшчасную гадзіну
Сіротачак пакінуў.

Сіроткі ўсе малыя,
Ї есьць ня маюць тыя,
Ї дроў няма палена,
Ї ў пуні няма сена.

Як жыў, як ты сьвет бачыў,
Усё-ж было іначай,
Ці ў полі ты... ці ў людзі...
Што з намі цяпер будзе?

Нашто на сьвет раджацца,
Хто мае з ім растацца.
Ї горкі жаль кідаці
Ўдаве, бацьком, дзіцяці...

БАЦЬКА

*уціраючы няўзнак сьлёзы*

Дзяржыць бяда старога,
Хаваюць маладога;
Забрала дамавіна
Ня бацьку, але сына.

Ня месца мне у хаце:
Ня дуж я працаваці;
Пры кім дажыць тут веку
Няшчаснаму калеку?

Вазьму я хіба ўнука,
Ці ў сьвет ісьці навука?—
Пайдзём ад хат да хаты,
І к бедным і к багатым.

Зьбірай, стары, хатомкі,
І зрыўкі і атопкі:
І жыва з хаты роднай
На сівер на нязводны!

*Выцягвае з-за печы лахманы і атопкі*

СТАЛЯР

*кончыўшы века да труны*

Як згаварыці слова,
І века ўжо гатова.
Закрыць дамоўку можна,
Падхозь прашчацца кожны.

Падходзь чужы і хатні
Заглянуць раз астатні
Вось на таго, што дзетак
Бяз часу кінуў гэтак.

Ня кепскім быў суседам:
Шоў прадзедаўскім сьледам,
Ня крыўдзячы нікога;
Цярпеў сам крыўдаў многа.

МЕНШЫ СЫН

*цалуючы нябожчыка руку—да маткі*

Чаму, скажы, матуля,
Прыбраны так татуля
Ляжыць у гэтай скрыні
Такі халодны, сіні?

БОЛЬШЫ СЫНОК

Ня лезь ты без патрэбы:
Душа ўжо таткі ў небе.
Ня ўстане і на лета;
Памёр ён, значыць, гэта.

*Дзеці адступаюцца; падыходзяць прашчацца другія. Сталяр забівае векам дамоўку. Суседзі бяруць нябожчыка на плечы і выносяць з хаты.*

ХОР

Рай сьветлы бесканечны
На судзе астатэчным
Дай, божа, ўсім загнаным
На векі векаў. Аман!

*Жонка і дзеці галосяць. Бацька, абвешаны торбамі, забірае ўнука і ідзе ў сьвет. Хата застаецца пустая. Чутны званы. Выюць сабакі.*

## XII
## НА МОГІЛКАХ

*Цёмная ноч перад узьвіжаньнем. Могілкі. Лётаюць совы і кажаны. На паваленым крыжы сядзіць цень Мужыка*

ЦЕНЬ МУЖЫКА

Што насып размыла жвіровы?
Што спаць мне ў зямлі не дае?
Чаго кажаны тут і совы
Зьляцелісь на косьці мае?

Прэч гадзіны, сьліўні, рапухі!
Хоць згіньце ў праметнай на дне.
Благія і добрыя духі,
Прыблізьцеся жыва ка мне.

Так спаць не ахвота век целы;
Мне хочацца ведаць, пачуць,
Што чутна на сьвеце на белым?
Патомкі мае як жывуць?

Ці досыць ім хлеба, да хлеба,
Як добра ім плаціць зямля?
Ці ласкі ад сьвету, ад неба
Ня маюць, як некалі я?

Ці песьні пяюць, ці як мухі
Ў цянётах гніюць павука?
І ўсё гаварэце мне, духі,
Што зроблена для мужыка.

*Зьлятаюцца тыя-ж самыя духі, што пры хрэсьбінах. Вярцяцца каля Мужыка і папераменна пяюць.*

### БЯДА

Мы скажам табе ўсё з ахвотай,
　　Па сьмерці тваёй што зайшло:
Ня зломлены к шчасьцю вароты,
　　Сьлязы ня ўбыло,—прыбыло.

### ГОЛАД

Ўсьміхаюцца пусткай папары,
　　Урода ня йдзе, як ня йшла.
Па небе за хмараю хмара
　　Плыве і плыве, як плыла.

### ХОЛАД

Хаціна згнівае у плесьні,
　　Хаўтурны ня зводзіцца звон,
Пад дзікія ветравы песьні
　　Пракляцьця разносіцца стогн.

### ХОРАМ

Завалены сьцежкі к прасьвету
　　Крыжамі бясчасных магіл,
А брат твой, мужык, бяз прывету
　　Ва ўсім гэтым чахне бяз сіл.

### ДОЛЯ

Табе яшчэ ведаць цікава,
　　Што стала з сынмі тваймі?
З усякай вялося ім славай,
　　Усяк ім жылося з людзьмі.

Адзін, як і ты, шнур пахае,
　　Карчомкай душу весяліць,
Другога чужына змагае,
　　А варта пры трэцім стаіць.

Чацьверты у зьдзеку загінуў,
　　За праўду, за крыўду сваю,
Руку адсек пяты машынай,
　　І торбаю корміць сям'ю.

### ЖЫЦЬЦЁ

Ну што? як старонка, як дзеткі,
    Як што між людзьмі, ці зьвярмі?
Я лоўка расставіла сеткі!
    Папробуй, расплутай вазьмі!

Я сілам цямрычным у рукі
    Няпраўд пустазельле дало,
Хай сеюць зьнішчэньне і мукі,
    Хай корча ўсіх змога і зло.

### ЦЕНЬ МУЖЫКА

Ня міла мне слухаць, ня міла
    З зямлі маёй гэткі прывет.
Раскрыйся нанова магіла:
    Страшней цябе людзі і сьвет.

*Магіла раскрываецца. Чутна запяяў недзе певень. Духі разьлятаюцца. Нікне цень Мужыка. Перагукваюцца з зайцамі совы. У паветры лапочуць крыльлямі кажаны і начніцы.*

# НА ПАПАСЕ

## АБРАЗОК З 1906 ГОДУ

## А С О Б Ы:

1-шы ПАДАРОЖНЫ

2-гі ПАДАРОЖНЫ

3-ці ПАДАРОЖНЫ

НЕЗНАЁМЫ

1-шы ЯЗДАК

2-гі ЯЗДАК

3-ці ЯЗДАК

## НА ПАПАСЕ

*Вясеньняя ноч. Непадалёк ад гасьцінца—хвойнік.*
*Тры падарожныя зьбіраюць гальлё*

1-шы ПАДАРОЖНЫ

*прыносячы галіну*

І пуста-ж, пуста ў гэтым лесе!
Нідзе галінкі не найсьці;
Вось тут абсохні і сагрэйся,
Найдзі дарогу ў бяспуцьці.

А помню, ўсё было іначай:
Папас тут меў ты, як папас;
Нічога воз гальля ня значыў,
Агонь ня зводзіўся, ня гас.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

*кідаючы сук*

Цьфу! Каб ты ўсё пайшло тут прахам!
Ну, і галоцяць людзі лес:
Па сук і то з вялікім страхам
На хвойку чуць я, чуць узьлез.

Яшчэ паўгода, год, і будзе
Бяз бліску вогнішча начлег,
Ня раз, ня два хтось блудам зблудзе
Усякай погані на сьмех.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

*кідаючы лазіну*

Вось вам дубец лазы лазою!
З карэньня выдзер як ё ўсю;
Змарыўся, змогся, чуць устою,
Каб толькі, выкрасіць агню.

Хай блісьне полымя пад неба,—
Пара манаткі абсушыць...
Я падыду па торбу з хлебам,
А вы вазьмецесь распаліць...

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Я рад-бы славы даказаці,
Ды сваю губку замачыў.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А я свой недзе цыр затраціў,—
Даўно і люлькі ня курыў.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Ну, добра! Зараз я вярнуся,—
Запаланее мігам лом:
Сярнічак мне дала Кастуся,
Ў мяне яны тут з капшуком.

*Выходзіць*

1-шы ПАДАРОЖНЫ

*к другому*

Садзіся, ваша, адпачынем!
Напэўна, спорна умахаў?
Дарожка—хай яна загіне:
Карэньня столькі і канаў!

Дух чалавеку ўпрост вымае,
Ня чуеш костачкі аднэй...
Садзіся, ваша, вось дзе з краю,
Ног зацяганых пажалей.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

О, дзякуй, дзякуй, чалавеча!
Я рад спачыну; балазе,
К таму сказаць, і акалечыў
Свой большы палец па назе.

*Садзіцца.*

Як неяк холадна на сьвеце,
Хоць май даўно ўжо на дварэ.
Але, але дзе наш той трэці?
Няўжо ўсё хлеб яшчэ бярэ?..

3-ці ПАДАРОЖНЫ

*падыходзячы*

А вось і я прышоў нарэшце!
Крыху задлякаўся з канём.
Агоньчык толечы разьвесьці,—
А там закусім, аддыхнём.

*Дастае запалкі.*

Запалім... А! вось і навука!
Што гэта значыла-б такі?
Другую маем закаклюку:
Мае замоклі сярнікі.

Ня дам нічога з імі рады;
Ўпацёмку трэба папасаць.
Вось не пашэнціла, дапраўды!
Ці-ж думаў хто так прападаць?!

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Э, плюнь, суседзе, на ўсё гэта,—
Каб нам такой бяды па-век!
Сьцюдзёна, цёмна, ды ўсё-ж лета—
Ня счэз ніводзін чалавек.

А можа хто яшчэ над'едзе
І зьніме гэты клопат з нас?
Дый пяршыня ці што, суседзе,
У дарозе мець такі папас...

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Мо' помніш леташнюю восень;
Увесь сьвет быў глух, і дзік, і пуст;
Шум ня сьціхае гонкіх сосен:
Здаецца, плача кожны куст.

Здаецца, пеклава вясельле
Ўзьнялося, круціцца, сапе;
Ні бліску зорак, ні прысельля,
Конь толькі пудзіцца, храпе.

Цурком дождж льлецца, як-бы з луба;
Скаголіць вецер, як той зьвер,
А мы пад хвойкамі, аж люба,
Начлег спраўляем, як цяпер.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

*прыслухоўваючыся*

Пастой, суседзе! нешта чую:
Як быццам фыркнуў мой гняды...
Кром нас, ніхто тут не начуе,—
Каб не набраціся бяды?!

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Сядзеце вы, а я падскочу
І кіну вокам на вазы:
Мо' сена хто наскубсьці хоча,—
Вось шэльме дам дык дам лазы.

*Адыходзячы, чапляецца лапцем за сук і валіцца.*

А каб цябе паляруш мучыў!
Чуць-чуць ня вывернуў нагу...
На сук на самы неяк лучыў.
Ну, ўжо гатова, ўжо бягу.

*Па нейкім часе варочаецца з Незнаёмым.*

Вось вам і злодзея на рукі
На вашы гэттака здаю...
Ня многа меў я з ім дакукі,
Пачуў ён сілу, знаць, маю.

У спрэчку доўгую ня ўходзіў:
Пайшоў, куды сказаў яму.

НЕЗНАЁМЫ

Пакінь плясьці! Я вам ня злодзей,
І лаяць так няма чаму.

Я гэткі самы падарожны,
Як вось і вы, мае людцы;
Закінуць тое толькі можна:
Я без каня, а з коньмі вы.

Але, як вы, шукаў начлегу,—
Яго між вамі думаў мець,
Дый ня туды, як бачу, ўехаў.
За блуд прыходзіцца жалець.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А як васпана нам пазнаці,
Што, як сюды ішоў, ня меў
Нічога злога даканаці,
Што нават думаць не пасьмеў?..

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А праўду, праўду сват гавора,
Мы тое скажам усе тры:
Куды ідзеш? Дзе быў учора?
Што ты за штука?

УСЕ ТРЫ

Гавары!

НЕЗНАЁМЫ

На рукі гляньце з мазалямі,
Грудзём прыгледзьцеся худым,
І кій і торба за плячамі
Найлепей скажуць аб усім.

З гразёй ня будзеце мяшаці,
Далей адпусьціце ісьці...
І вас чакаюць дзеткі ў хаце,
І вы бяспутнікі ў жыцьці!

Вось лепш асьвецім гэту кнею—
Сьвятлу з нас пэўне ўсякі рад...
Я гаварыці казкі ўмею,
І песень такжа ўмею шмат.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Як бачым, ты глядзіш іначай.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Відаць, ня злодзеевы род.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А хто-б падумаў? Так прастачы
Ї твой убор і твой паглёд!

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Ї казкі ўмее і за песьняй,
Відаць, ня пойдзе ў кішаню.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Адно бяда,—што, хоць ты трэсьні,
Ня можам выкрасіць агню!

НЕЗНАЁМЫ

Усё, усё мець зараз будзем:
Заўсёды ё ў мяне сьвятло,
Ї з ім мы тут не замарудзім
Лясным падсуседзям на зло.

*Запальваючы лом.*

Гары, гары, ламок, агніста!
Вы, браткі, сядзьце у кружок,
Ї да зары да залацістай
Нас будзе слухаць сасьнячок.

Адкуль—ці песьняю, ці казкай—
Пачаць вам думкі весяліць?

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А ўжо, калі там ваша ласка,
То й песьню можна закаціць.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

А посьле скажаш, дабрадзею,
Хто ты, адкуль, куды ідзеш?
Цаніць людзей і мы умеем,
Хоць маем гэткіх што раз менш.

## НЕЗНАЁМЫ

Ну вось і слаўна! Што больш трэба?—
Агонь, суседзяў грамада;
Навокал лес, над лесам неба,
А там—і зорак чарада.

Люблю я гэткія прыцуды!
Тут чалавек—як чалавек;
За думкай думка мкнецца ўсюды,
Сон не чапляецца павек.

*Пяе.*

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён,
Толькі з воляй і доляй ня бачыўся:
Сонны сэрцам, душой,
Драмаў ў хаце крывой,
А выходзіў—сьлязамі сьлед значыўся.

Аж вось чуе Лявон
З усіх клікі старон,
Што ён дурань, жыве пабыдлячаму,
Ды сам тут зразумеў,
Што дум сьветлых ня меў,
Што падобен быў дрэву хадзячаму.

Зварухнуўся Лявон,
Як вада, як агонь,
Пазнаў сілу ў сабе нябывалую;
Ўжо бяда—не бяда,
Ужо нуда—ня нуда,
Запеў песьні свае разудалыя.

Зямля стогне, дрыжыць,
Як пяе, як крычыць,
Як прасьвету сабе дамагаецца;
Аж ад песень такіх
Страх напаў на другіх,
І вось чорная моц падымаецца.

І пайшло ўсё ўверх дном.
Сьвісты, енкі кругом,
Груганы на здабычу зьлятаюцца:
Шчасьце даць бедаку
Ня ўсім шло на руку,—
Ня ў руку, што Лявон прачыхаецца.

Дарма сілен Лявон
І адважны так ён,—
На падмогу дарма ён надзеецца:
Галаву у баю
Даў за праўду сваю,—
Толькі памятка—насып віднеецца.

Ляжыць, дрэмле Лявон,
На грудзёх вырас клён;
Калі-ж вецер на сьвеце расходзіцца,
Шуміць шумна той клён:
Яшчэ ўстане Лявон—
Гэй, Лявоны у нас не пазводзяцца!

*Перастаўшы пяяць.*

Вось і канец вам песьні-байцы,
Ці ў ёй панятна толькі ўсё?..
Калі ня так што—выбачайце,
Даконча ваша вам жыцьцё.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

О, песьню важную такую
Ня пойме толькі гліны ком...
Цяпер няхай-жа мы пачуем
Што трохі аб жыцьці тваём.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А я крыху гальля падбаўлю.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

*да другога*

Я памагу табе крыху.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Аброці коням я папраўлю.

*Адыходзяць усе тры.*

НЕЗНАЁМЫ

*ўсьлед падарожным*

Я адпачыну на маху.

*Адзін.*

О, люд мой, лапатны, патульны.
За што цябе я так люблю?
За што твой гоман неразгульны
І думкі ўсе твае лаўлю?

Ты лёг мне каменем на сэрцы,
Які ня ў сілах зваліць я...
Што тут пачаці ў паняверцы?
Жыві ў жыцьці і бяз жыцьця.

Ідзеш-брыдзеш, а на дарозе—
То косьць, то камень, то бадыль;
У брата станеш на парозе,
А ён табе... О, божа, крый!..

Нясі ў мяцеліцы, ў разводзьдзі,
Свайго цярпеньня нясі крыж.
Калі-ж праглянеш ты, народзе,—
Арліным лётам узьляціш?

Пасьцель пуховую пасьцелеш
Сваім замучаным дзяцям,
Нясьмелых песьняю асьмеліш,
Якой сягоньня бедзен сам?..

Як страшна збуджаным хадзіці
Між наспаў, зломаных крыжоў!
У мокры пень агонь красіці,
Склікаць аплучаных дружкоў...

Так цяжка, цяжка, дзе ні глянеш,—
Касою крыўды хоць касі!
Калі-ж, народзе, ты устанеш
І сонцу голас падасі?

ПАДАРОЖНЫЯ

*падыходзячы*

А вось і мы! Цяпер зноў сядзем...

НЕЗНАЁМЫ

Цяпер зноў сядзем... ну, і што-ж?
Ага! гісторʻю нашу зладзім,—
Адточым востра ўсё, як нож;

А можа трапім ёю ў грудзі,
У грудзі з дзерава людзей...

ПАДАРОЖНЫЯ

Што-ты? Ці-ж мы такія людзі?
Жартуеш хіба, дабрадзей!

НЕЗНАЁМЫ

О не, крый божа! Ось зьняўцёку
Зьляцела слоўца з языка...
Так штосьці ў сэрцы мне нялёгка,
Ну, і паднесла бедака...

Хто я і скуль—для вас цікава;
О, не вялікі гэта цуд:
Радзіўся, рос, ляцеў за славай,
Ляцеў, ажно спынуўся тут.

Убачыў дзень я ў сельскай хаце;
Бацькі у беднасьці жылі:
Канёк, кароўка—ўсё багацьце,
Ды гоняў двойчы—ўсёй зямлі.

Чытаць, пісаць крыху навучылі,
Але ня выўчылі зусім;
Сам з часам кніжны лад асіліў—
І толк у ім даваў другім.

І мёд салодкі і атруту
Суліць страніца стала мне;
Я думкі ёю ўсе апутаў:
Ня знаў—на яве я ці ў сьне.

Цямноты ўсю паняў няздарнасьць,
Я сілу знаньня ўсю паняў;
Свайго жыцьця я бачыў марнасьць,
Аж на сябе я рукі ўзьняў.

Але ня суджана было мне
Душой бяз часу загавець,
І сам ня знаю ўжо сягоньня
Жалець таго ці не жалець.

Ішлі гадочкі за гадамі.
Я ў сілу рос і ў розум рос,
Дый не расьце пацеха з намі,
Як там ні жалімся на лёс.

Што раз зваднейшыя ўсё леты,
Што раз цяжэй на грош і хлеб.
Пайсьці у сьвет—бацькі мне сьветам,
А хата мне—астрожны склеп.

Сьмяецца неба непагодай,
Шыбець скаціну нейкі звод,
Зямліца дзеліцца няўродай,
За годам выплаканы год.

Аж бацьку гора з ног зваліла,—
Пайшоў на той сьвет без пары;
У год капай зноў тры магілы:
Зьлёг брат і дзьве зьляглі сястры.

Пайшло няшчасьце за няшчасьцем;
Я кут пакінуць мусіў свой...
Дзе ступіш—сьмешкі ды напасьці,
Хоць налажы ты галавой.

Пазнаў куткоў чужых сьцюдзёнасьць.
Нагайку службы я пазнаў,
У сьлед мая шла бяспрытоннасьць,
З ёй вецер песьні напяваў.

А думкі рваліся да сонца,
Туды—да ціхіх добрых зор,
Да волі, шчаснасьці бясконца
З пустынных ніў, з гаротных гор.

Ліў нейкі мне таемны голас
Праявы дзіўныя ў душу;
Іх чуў, як чуе сонца колас,
І думаў—зло сваё скрышу.

. . . . . . . . . . . .

Іду... Куды ісьці сягоньня?
Аднэй няма, а шмат дарог...
Адлогам родныя сьпяць гоні,
Іржа на вышках есьць нарог.

На траме ўверчана анучай
Ляжыць няклёплена каса;
На сьцежках мох расьце калючы,
На ім—чырвоная раса.

Руцэ народнай набіваюць
Плугі чужыя мазалі,
Чужыя коні папасаюць
На абязволенай зямлі.

Йдуць песьні, казкі ў дамавіну,
Якія дзед сьпяваў, складаў;
Свае жалейкі люд закінуў,—
Чужым сьвісьцёлкам месца даў.

Узносіць пасынкам пакорным
Бяда цямнічныя муры,
І сеткі путае праворна,
І ладзіць здрадна хаўтуры.

Адно чуваць, як быццам штосьці,
З-пад сонных наспаў, з-за мяжы,
Дзе дрэмлюць прадзедавы косьці,
Дзе час варочае крыжы,—

Штось варушыцца у бясьсільлі,
Ці-ж бы там быў жывых папас?..
Няўжо нябожчыкаў зьмянілі,
Няўжо нябожчык кожны з нас?..

. . . . . . . . . . . . . . .

Але ўжо блізка і сьвітаньне;
Пара ўзьнімацца ўжо, пара!

Пакуль к нам з неба сонца гляне,
Жджэ не адна мяне гара.
І вам пара вазы ўжо ладзіць,
К дарозе коні рыхтаваць:
Раней лепш стануць у парадзе,
Чым на папасе пераспаць.
Цяпер каторы з вас пасудзіш
Мяне за злодзея свайго?

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Ты ня тутэйшы, мусіць, будзеш
Або і горай ад яго?

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Цікава, вельмі ўжо цікава
Ўся гэта гутарка твая,
Але такую мецi славу
Не пахваліўся-б, браце, я.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Так з кута ў кут век вандраваці,
Як мне здаецца—без патрэб...
Ці-ж то ня лепш сядзець у хаце
І у спакоі есьці хлеб?

НЕЗНАЁМЫ

Э, што!.. Бывайце, людзі, жывы!
Дзе толькі торба і мой кій?..
Гэй, сыпма далей, там на нівы,
Хоць гром грымі, хоць віхар вый!
Яшчэ спаткаемся калісьці—
За год, за колькі мо' гадкоў,
Як зьвянуць сёлетнія лісьці,
Як прыдзе „радаўніца“ зноў.

*Адыходзіць напяваючы.*

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён...

1-шы ПАДАРОЖНЫ

І дзіўны-ж гэты чалавечак!
Чаго ён хоча ад другіх?..

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Ці-ж мала ёсьць такіх авечак?
Ат, толькі сьмех глядзець на іх!

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А я скажу вам, ягамосьці:
Сыходзіць з поля маладзец;
Злавіў там з кніжак штось чагосьці,
Ну, і вар'юецца ў канец.

*Чуваць конскі топат.*

1-шы ПАДАРОЖНЫ

А гэта што зноў за праява:
Каго нячысьцік нясе так?

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Бадай, запутаная справа,—
Вун, вун—адзін, другі яздак.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Сюды на вогнішча к нам едуць,
А з імі—нейкі важны чын.

1-шы ЯЗДАК

*шыбка пад'яжджаючы*

Ці не маглі вы бачыць, ведаць—
Сюдой вандроўнік шоў адзін?

ПАДАРОЖНЫЯ

Не, не паночкі! мы ня знаем,
Мы тут начуем толькі ўтрох,
І зараз самі ад'яжджаем:
На рынак ладзімся, на торг.

2-гі ЯЗДАК

Паедзем далей, тут нічога
Нам не паказвае на сьлед.

3-ці ЯЗДАК

*да падарожных*

А як вы ўбачылі-б такога,—
Злавіць, зьвязаць—і к нам чым сьвет!

*Ад'яжджаюць.*

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Чакайце толькі, покуль буду
Нагу яму я падстаўляць.
Каб чуць раней, а ўжо бяз труду
Маглі-б гуртом беднягу ўзяць.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А шкода, шкода было-б хлопца!
Такі-ж ён нейкі чараўнік...

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Ні думаць! Як мы—рос у вёсцы,
Як мы—такі ён сам' мужык.

1 шы ПАДАРОЖНЫ

Зайдзі ка мне—я даў-бы хлеба.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Апраткі-б я не пажалеў.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Каб начаваць была патрэба,—
Папас найлепшы ў мяне-б меў.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Запраўды, так гавора важна.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А ўжо-ж ганяюць нездарма!

3-ці ПАДАРОЖНЫ

І песьню так пяе працяжна!..

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Душу, здаецца, рве яна.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А ці ты помніш усю чыста?

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Пачатак помню я увесь.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А я—сяродак галасісты.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А мне канец у вушы ўлез.

*Разыходзяцца напяваючы.*

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён—
Толькі з воляй і доляй ня бачыўся...

# ПЕСЬНЯ АБ ПАХОДЗЕ ІГАРА

(„Слово о пълку Игоровѣ“)

ВЕРШАВАНЫ ПЕРАКЛАД З ОРЫГІНАЛУ

# ПЕСЬНЯ АБ ПАХОДЗЕ ЇГАРА

## I

Ці ня добра было-б нам, брацьці,
Старадаўнымі словы пачаці

Сказ аб Їгара трудным паходзе,
Сьвятаславіча-князя прыгодзе?

А пачацца сягочасным ладам
Песьні тэй,—не Баянавым складам!

Бо Баян чарадзейны, як песьняй
Захацеў каму пеці пачэсьне,

Расьцякаўся ён белкай па дрэву,
Шэрым воўкам па полі-пасеву,

Сівакрылым арлом пад аблокі,—
Так захопліваў сьвет ён далёкі!

Помніў ён бо, як кажуць, старыны
Ї разрухі ўсе даўных часінаў:

Выпушчаў дзесяць сокалаў радам
Ды на белае лебедзяў стада,

А якая з іх сокалу ўпала,
Тая першая песьню пяяла:

Ці старому тады Яраславу,
Ці харобраму князу Мсьціславу,

Што у борцы зарэзаў, як згледзеў,
Перад войскам Касожскім Радзедзю,

Або краснаму пела Раману
Сьвятаславічу ў хвалу й нагану.

Але, брацьці, ня сокалаў дзесяць
Выпушчаў ў сьвет Баян з пералесіц

На лябяджае стада, бы ў бойцы,—
А ён клаў свае вешчыя пальцы

Ня пявучыя струны, а тыя
Пелі славу князём, як жывыя.

Дык пачнем-жа мы, брацьці, сказ гэты
Ад старога Ўладзімера летаў,—

Да сучаснага Ігара-воя,
Што скуў розум свой сілаю ўдвое.

Навастрыў сваё сэрца адвагай,
Барацьбянай напоўніў дух смагай

І павёў цераз сёлы і вёскі
Свае дужыя, храбрыя войскі

На зямлю Палаўчан, на змаганьне
Ды за рускай зямлі бытаваньне!

## II

Як зірнуў тады Ігар на сонца,
Бачыць—цемра зацьменьня бясконца

Яго войска пакрыла, як сажай,
Тут дружыне сваёй ён і кажа:

„Ой, вы, брацьці мае, і дружына!
Лепей будзе, каб кожны з нас згінуў,

„Чымся быць усім нам у палоне.
Сядзьма-ж, брацьці, на быстрыя коні

„Ды на Дон сінявокі паглянем!“
На вум князю залегла жаданьне:

Не зважаючы з неба варожбаў,
Сягнуць Дону вялікага ложбаў.

„Вось хачу,—кажа,—вострую дзіду
Заламаць за бяду і абіду

„Аб канец Палавецкага поля;
Хачу з вамі, Русіны, за волю

„Палажыць сваю голаў да скону,
Ці напіціся шоламам Дону“.

О, Баяне, часінаў мінулых
Салавейка! На струнах-бы чулых,

Ты апеў-бы паход слаўны гэны,
Імкнучы, салаўцеча нязьменны,

Па выдумнаму дрэву далёка,
Дасягаючы духам аблокаў,

Часаў даўных зьвіваючы й новых
Сваёй славай абедзьзе паловы,

Сьлед Траянавы сочачы, скоры,
Цераз поле, даліны на горы!

Ты-бы песьню тады аб набегах
Сьпеў для Ігара, ўнука Алега:

„Ой, ня сокалаў несла віхура
Цераз поле шырокае бура!—

„А каціліся галіцы стадам
Да Вялікага Дону з нападам“...

Ці запець было, вешчы Баяне,
Ўнуча Велеса, гэта пяяньне:

„Коні ржуць за Сулою-ракою,—
Слава ў Кіеве звоніць з зарою!“

Чутны трубы з Наваграда,
Стаяць сьцягі у Пуціўлі.
Ігар брата Ўсевалода
Жджэ прыход у кожнай хвілі.

І прышоў брат і казаці
Стане буй-тур Усяволад:—
„Ты ў мяне адзін, мой браце,
Сьвет мой сьветлы, Ігар-волат!

„Мы з табой абодва сёньні
Сьвятаслававыя дзеці,
Дык сядлай свае, брат, коні,
Коні быстрыя, бы ўсьпеці.

„А мае напагатове
Ўжо, як знаеш, асядланы
Яшчэ ўперад у дуброве,
Каля Курску, раным-рана.

„А мае-ж Куршчане любы
Табе ведамыя кметы:
Пад гудамі гулкіх трубаў
Спарадзіліся ў дасьветы.

„Гадавалі іх шаломы,
А канцом дзіды ўскармлёны,
Шляхі ім усе вядомы
І знаёмы яры, склоны.

„Ў іх нацягнутыя лукі,
Нарыхтованыя стрэлы;
Шаблі вострыя у рукі
Пахапалі, дзержаць сьмела.

„Як ваўкі сівыя ў полю,
Самі мчацца ў бой крывавы,
Каб здабыць сабе чэсьць, волю,
Каб прыдбаці князю славы!"

Князь Ігар тады ў залатое сядло
Сеў і паехаў па чыстым разлогу,
А сонца на небе, згасіўшы сьвятло,
Цемрай яму заступіла дарогу.

Ноч, стогнучы жудкія грозьбы яму,
У полі маркотным птушшо разбудзіла.
А выцьце зьвярынае ў гэтую цьму
У стада пужлівае птахаў тых зьбіла.

Паверх лесу кліча ўжо чарамі Дзіў,
Слухаці кажа зямлі незнаёмай—
Корсунь, Памор'е і Сураж зацьміў,
Волзе, Пасульлю папутаў заломы.

Кажа ў табе яго слухаць, балване,
Што разбаярыўся ў Тмутаракане!

А Полаўцы шляхам пабеглі нябітым
К Вялікаму Дону, як зьверы, жудосна;
Калёсы у поўнач крычаць іх адны там,
Маўляў тыя лебедзі спуджаны со-сну.

Вось Ігар-князь к Дону вядзе сваіх вояў,
А птаха, бяда яго, сочыць па суччы;
Ваўкі па бярлогах варожаць благое,
І брэшуць лісіцы на шчыты бліскучы.

Арлы заклікаюць зьвяр'ё клякатаньнем
Зьбіраць на пабоішчы косьці людзкія...
— О, Рускае племя! Далёкім сяганьнем
Ты ўжо перайшло рубяжы Палаўцкія.

Доўга ў мроку ноч танула,
Заранiца сьвiт зблiжала,
Поле мглою зацягнула,
Раньне жнiва сваё жала.

Сьцiхнуў сьвергат салаўiны,
Узбудзiўся гоман галчы...
— О, харобрыя русiны!
Прад навалаю паганчай

Загародзiлi шчытамi
Вялiкае тое поле,
Здабываючы чэсьць самi,
А для князя славы болей!

### III

А во ў пятніцу рана стапталі
Палавецкае войска паганае;
Ў полі стрэламі там засьвісталі,
Загулялі пабеду праслаўную.

Ўзялі красных дзяўчат Палавецкіх
І папоны, аксаміты, золата—
Ўсё, што ўпала да рук удалецкіх,
Што бітвой ня было ў попел змолата.

Палавецкім багацьцем-плашчамі,
Кажухамі, тканінай залотнаю
Памасьцілі масты пад нагамі,
Загацілі праходы балотныя.

Сьцяг чырвоны, дзіда серабрана
І банчук па абычаю добраму
Ў нагароду за славу, за раны,
Сьвятаславічу, князю харобраму!

Дрэмле Алега харобрае
Ў полі на шчытах гняздо.
Ой, даляцела, адважнае,
Дужа далёка яно!

А ня было-ж яно зроджана
Ў крыўду нікому нідзе—
Ні быстракрыламу крэчату,
Ні сакалу, ні бядзе

І ні табе, Палаўчаніне,
Чорны паганы груган!..
Крыўдзе тваёй не спакорыцца
Вольны Алегавы стан.

Гза бяжыць шэрым воўкам
Там па полі па дзікаму,
А Канчак яму сьцежку
Значыць к Дону Вялікаму.

На другі дзень вельмі рана
Над зямлёй крывавы зоры
Сьвіт усходні абвяшчаюць,
Хмары чорныя йдуць з мора.

Сонцы два прыкрыці хочуць,
Як дзьве ясныя заранкі,
А во ў хмарах гэных чорных
Зьзяюць сінія маланкі.

Быці вялікаму грому
Над класамі пасьпелымі;
Дажджуісьці каляному
З Дону Вялікага стрэламі.

Тут паламаціся дзідам
Па-над Каял-ракі доламі,
Тут пашчарбаціцца шаблям
Аб палавецкія шоламы.

О, зямля Руская! З славай
Воі твае маладзецкія
Перасягнулі далёка
Ўжо рубяжы Палавецкія.

Вось ветры, Стрыбожыя ўнукі,
Павеялі стрэламі з мора
На храбрае Ігара войска,
Узгадована ў долі і ў горы.

Зямля і дудніць і трасецца,
Цякуць памутнеўшыя рэкі;
Туман пакрывае ўсё поле,
А сьцягі гамоняць: на векі!

Ідуць Полаўцы ад Дону
ад мора ўсплылі,
Войска рускае навокал
Нетрай абступілі.

Перагарадзілі поле
Шатамята клікам,
А харобрыя русіны—
Шчытамі і пікай.

Ой, ты, яр-тур Усяволад!
Стаў ў бок забіякай;
Засыпаеш ты варожых
Стрэламі ваякаў.

І грыміш аб іх шаломы
Стальнымі мячамі;
Дзе ўпадзеш, тур, залатымі
Сьвецячы шчытамі,—

Там кладуцца ў рад галовы
Полаўцаў паганых,
І а вараскія шаломы
Шабляй пашчапаны...

Якая цана ранам, брацьці, таму,
Хто забыўся жыцьця яснаты,
На горад Чарнігаў хто ў боях забыў
І на бацькаў пасад залаты?

На мілую любу, Глябоўну сваю—
Яснавокую краску-жану,
На звычай, абычай прадзедаў стары,—
Хто ўсё гэта забыў у вайну?..

## IV

Былі слаўныя, дзеяў Траяны, вякі,
Прамінулі гады Яраслава
І паходы Алега былі працяклі—
Ўсё Алега з сыноў Сьвятаслава.

Той Алег бо мячамі разруху каваў,
Па зямлі сеяў стрэлы разгонам,
Калі ў горадзе Тмутаракані ступаў
Ў залатое стрэмя ён са звонам:—

Чуў здалёку той даўны трывожлівы звон
Яраслававы сын, Усяволад,
А Ўладзімер што-раньня, пакінуўшы сон,
Зачыняўся ў Чарнігава-горад.

А Барыса таго Вечаславіча,
Маладога і храбрага князя,
На апошні суд слава паклікала,
За якою ганяўся ў адвазе.

І на векі пасьцелю зялёную
У Каяльным паценьні паслала—
Ўсё за крыўды-абіды Алегавы,
Што загубства разводзіў нядбала.

К тэй Каялы-ракі між Угорскімі
Іначодцамі сам палялеяў
Яраполк свайго бацьку да Кіева—
Да сялібы сьвятое Зафеі.

Пры Алегу тады Гараславічу
Моц было міжусобіц, няладаў;
Жыцьцё гінула ўнука Дажбожага,
Люд свой век скарачаў ў княжых звадах.

На зямлі тады Рускай узбуранай
Рэдка пеў аратай за сахою,
Груганьнё зато часта пагрумквала,
Ў полі дзелячы труп між сабою.

А на ежу ляцеці зьбіраючысь,
Галкі гоман заводзілі й гулі.
Так было ў тыя войны й пабоішчы,
А такіх бітваў слухам ня чулі!

## V

Ад раніцы да вечара,
Ад вечара да раніцы
Лятуць стрэлы гартоўныя,
Грымяць мячы аб шоламы,
Трашчаць дзіды сталёвыя,
Шумяць харугві стужкамі
Сярод палёў няведамых,
Сярод зямель Палоўцавых.

Зямля тая ўчарнелая,
Пабітая капытамі,
Касьцямі ўся пасеяна,
Крывёю ўся палітая.
Вялікай абхапілася
Зямля тугою Руская.

Што там шуміць, што там зьвініць
Рана, йшчэ перад зарою?—
Ігар палкі ўводзіць свае:
Жаль яму Усеўлада-брата.

Біліся дзень, дзень і другі,
Трэцяга дня пад палудня
Сіла змагла, сіла лягла,
Рухнулі Ігара сьцягі.

Тут два браты разлучыліся
На беразе быстрай Каялы,

Тут не хапіла крывавага
Віна ды ў гульні нябывалай.

Тут пір дакончылі храбрыя
Русіны—ня дарма набеглі,—
Сватаў спалілі, а самі там
За Рускую землю палеглі.

У полі далёкім ад жаласьці
Маркотна ные травіца,
А пад тугой цяжкай дзерава
К зямлі сірацінай хіліцца.

## VI

Во, невясёлая, брацьці, гадзіна настала!
Сілу пустыня прыкрыла ўжо грознай навалай;

Крыўда паўстала у ўнука Дажджбожага сілах,
Дзевай яна на Траянаву землю ўступіла.

Крыльлем лябяджым па моры ўспляснула, а ў Доне
Плюскатам спудзіла шчасныя часы ў бяздоньні.

Князевы споркі—людзям ад паганых загуба;
Стаў гаварыцё брат да брата са злосьці, нялюба:

„Гэта і гэна маё!“ Ды пачалі казаці
Князі аб малым: „во гэта вялікае, браце!“

А на сябе самі згубства каваці няўстаньне...
Скрозь-жа на Русь набягалі з пабедай пагане.

О, як далёка сакол заляцеў ў гэну пору,
Птушак пужлівых зьбіваючы, к сіняму мору!

А ўжо адважнага Ігара войска ня ўскрэсіць!
Па ім Карына заклікала, гледзя на месяц.

Жэля па Рускай зямлі паняслася з трывогай,
Смагу наводзячы людзям у полымя рогу.

Жоны заплакалі рускія ў жальбах нябылых:
„Ўжо нам ня мысьляй памысьліць мужоў сваіх мілых,

„А ні прадумаці думай, ні вочмі сваімі
Іх азіраць на пуховай пасьцелі жывымі.

„Срыбрам і золатам тым пагатове ніколі
Нам не пацешыцца ў долі, самотнае долі!“

І застагнаў-жа, о, брацьці, град Кіеў тугою,
А той багаты Чарнігаў—напасьцю благою!

Журба па Рускай зямлі разьлілася разводзьдзем,
Ды пацякла ненасытная жальба ў народзе.

А на сябе самі князі загубства кавалі,
А тут паганыя самі адны не чакалі,

Панаваліўшысь на Рускую землю з пабедай,
Дань вымагалі па белцы з двара даўным сьледам.

Тыя бо два Сьвятаславічы, храбрыя воі—
Ігар, Усяволад—няпраўду збудзілі сабою,

Што быў прыспаў іхні бацька, той грозны вялікі
Кіеўскі князь, Сьвятаслаў. Ён-жа не для прылікі

Грозьбаю быў над варожымі сіламі злымі
З войскам харобрым сваім і мячамі стальнымі.

На Палавецкія землі нагой наступіўшы,
Узгоры і яры пакуль не стаптаў, стуль ня вышаў.

І замуціў там вазёры і рэкі ў чаротах,
І засушыў там крыніцы і дрыгвы-балоты,

А паганога Кабяку з узлучыны морскай,
Як бураломнае віхрышча, выхапіў дзёрзка.

Ад тых палкоў палавецкіх, жалезных, агромых,
Ажно зваліўся Кабяк ў Сьвятаслава харомах!

Тут вэнэдыйцы і немцы, тут грэкі й маравы
Славу вялікую дружна пяюць Сьвятаславу;—

Ігара каюць, нашто патапіў ён багацьце—
Ў доньні Каялы-ракі Палавецкай загаціў,—

Золата рускага ўсыпаўшы там вельмі многа.
Там-жа князь Ігар ссаджаўся з сядла залатога

Ды на сядло ўжо нявольніка ціха садзіўся...
Ў горадах сьцены занылі, шум-гоман спыніўся.

## VII

А на горах у Кіеве гэтае ночы
Сьвятаславу прысьніўся сон смутны, прарочы:

„Адзявалі мяне,—кажа,—з вечара зморна
На цясовай кравацi пасьцілкаю чорнай;

„Віно сіняе чэрпалі мне, бы ў вясельлі,
А ў віне тым благое намешана зельле.

„А з пустых палавецкіх каўчанавых жэрлаў
Мне на грудзі там сыпалі буйныя пэрлы,

„Ды так песьцяць мяне. А ўжо дошкі ў праломах
І бяз скрэп на маіх златаверхіх харомах.

„Усю з вечара ноч груганьнё грумкацела,
На балонь каля Плесьнеску ўжо даляцела,

„Пабыло на балотнае топкае Сані
І да сіняга мора няслося на раньні!"

І казалі на гэты сон князю баяры:
„Ўжо туга, княжа, розум адзела твой хмарай!

„Гэта з бацькава так залатога пасаду
Сакалы два зьляцелі сачыці прынаду—

Горад Тмутаракань пашукаці з разгону,
Або ўдоваль напіціся шоламам Дону.

„І ўжо сокалам гэным шаблямі паганых
Пападсечана крыльле на дзікіх палянах,

„А саміх у жалезныя спуталі путы.
Ў трэці дзень патануў сьвет у цемрадзі лютай:

„Сонцы два пацямнелі—слупы агнявыя
Згасьлі два,—з імі месяцы два маладыя.

„Сьвятаслаў і Алег апрануліся цьмою
Ї на моры Яны патанулі абое,

„Ї вялікай буянасьці хану дадалі.
Цьма пакрыла сьвятло на рацэ на Каяле,

„А па Рускай зямлі, як гняздо тое рысяў,
Чарадою скрозь Полаўцы параспаўзьліся.

„Ўжо ўзьнялася над хвалай благая пахула,
Ўжо насільле над воляй узьнесла—сагнула,

„Ї ўжо рынуўся Дзіў на зямлю на прысельлі,
Вось бо Гоцкія красныя Дзевы запелі

„На пахілістым беразе сіняга мора,
Рускім звонячы золатам, сочачы зоры.

„Ўсе пяюць яны Бусавы часы і справы
Й Шараканавай помсты лялеюць праявы.

„А ўжо мы во—твая маладая дружына
Больш ня знаем з табою вясёлых часінаў“.

Тады вялікі Сьвятаслаў
Азваўся словам залатым,
Зьмяшаным з горкімі сьлязьмі,
Ї так сказаў баярам тым:
„О, сыны мае, Ігар і Ўсевалад!
Рана пачалі крышыці
Мячамі зямлю Палавецкую,
А сабе славу сачыці.
„Але толькі ня з чэсьцяй уходалі,
Бо вы ня ў чэсьці і хвале
На тым полі далёкім паганскую
Кроў на зямлю вылівалі.
„Вашы сэрцы ў сталь крэпка закованы—
Ўзброены гартам адвагі,
Але што-ж натварылі сівізьне вы
Тамка маёй без развагі?

„Не даждалі багатага й сільнага
Брата майго Яраслава
На падмогу з яго многавоямі,
З войскам чарнігаўскім бравым—

„А ваякі яны ўсе сусьветныя:
Там і Магуты, й Шальберы,
І Татраны у побач з Равугамі,
Там Тапчакі і Альберы.

„А яны бо з нажмі захаляўнымі
І бяз шчытоў б'юцца жвава—
Пабяджаюць палкі толькі клікамі,
Звонячы прадзеднай славай.

„Але вы там сказалі: мужаймася
Самі з сваімі мячамі!
Славу самі захопім пярэднюю
Й з задняй падзелімся самі.

„А ці-ж дзіва тут, брацьці, вялікае
Памаладзецi й старому!
Калі сокал ліняе—ён высака
Птушку ўзьбівае ад дому;

„Не папусьце гнязда свайго роднага
Ў крыўду, як бача трывогу.
Але гора ўсё ў тым, што во буйныя
Князі ўжо мне ў не падмогу:

„Тыя часы ў ніштo абярнуліся.
Вось бо ля Рымава зрана
Пад шаблямі крычаць Палавецкімі,
А Валадзімер—у ранах!

„І туга і нуда сыну Глебаву,
А ўсё з таго, што крышыцi
Ня ў час шлі зямлю Палавецкую,
А сабе славу сачыці!..“

## VIII

О, княжа вялікі, Ўсяваладзе!
Ці ня думкай табе-б прыляцеці
Здалёку, каб трон-пасад бацькавы
Залаты ўберагчы ў ліхалецьці?

Распырскаць бо можаш ты вёсламі
Многаводную Волгу на бокі
І можаш сваімі шаломамі
Да дна вычарпаць Дон сінявокі.

Каб быў ты, была-бы нявольніца
Па адным—а ня болей—нагаце,
А з ёй і нявольніка кожнага
Па разане маглі-бы купляці.

Ты можаш бо з воддалі, насуха,
Над шырокімі бітваў палямі
Жывымі страляць самастрэламі—
Тымі ўдалымі Глеба сынамі.

Ты Давід і буй-Рурык! Ня вашыя-ж гэта
Пазалочаны шоламы гэнага лета

У крыві, бы ў рацэ рыбы, плавалі цінай?
Ці-ж ня ваша адважная колісь дружына,

Маўляў туры, рыкае ў няведамым полі,
Гартаванымі шаблямі ранена ў волю?

Уступеце, сябры, ў залатыя страмёны
За ўсю крыўду вялікую часаў сягоных

І за Рускую землю, за Ігара раны,
Сьвятаслáвіча буйнага—зьдзекі ў паганых.

Яраславе, Асмомысьле Галіцкі! Кутам
На пасадзе высока сядзіш златакутым.

Ты сваімі палкамі жалезнымі ўвышы
Падпёр горы Угорскія, шлях заступіўшы

Каралю, й зачыніўшы вароты Дунаю,
Цераз воблак шыбаючы берамы з краю,

Да Дунаю суды свае судзячы спраўна!
Твае грозьбы па землях цякуць многаслаўна.

Адчыняеш ты Кіеву насьцеж вароты
Ды з свайго залатога пасаду адно ты

Султаноў за зямлямі страляеш нясла̂ба.
О, страляй, княжа, ў сэрца паганага раба

Канчака за зямлю Русь, за Ігара раны,
Сьвятаславіча буйнага—зьдзекі ў паганых!

А ты, буйны Рамане, і ты, Імсьціславе!
Думка храбрая носіць ваш розум па справе.

Плывіцё вы на справу з адвагай, высока,
Быццам сокал на ветрах, лунаючы лёгка.

Птаха хочучы сходаць у бітвах з вятрамі,
Ёсьць бо ў вас пад лацінскімі йшчэ шаламамі

І з жалеза наперсьнікі, з іхняга звону
Ўжо затрэсьліся землі й шмат ханскіх старонаў—

Палаўчане, Літва, Дарамела, Яцьвягі,—
Свае кінулі ў полі і дзіды і сьцягі

І галовы свае нахілілі пад тыя
Вашы, князі, магутныя мечы стальныя.

Але ўжо, княжа Ігар, бліск сонца сьцямніла,
Не на добрае й дзерава лісьць свой згубіла!

Во па Росі й Суле гарады падзялілі.
А ўжо Ігара войска ня ўскрэсіць у сіле!

Дон цябе, княжа, кліча, ждучы твайго сьледу,
І князёў заве іншых к сабе на пабеду.

Во харобрыя князі Альговічы,—ў бойцы
Непамернай таей утаміліс малойцы.

Усяволад, Інгвар, Імсьціславічы ўсе тры!
Не благога гнязда птахі хованы ў ветры,—

Сабе ўладу ня ў шчасьці-ж пабедным прыдбалі?
Залатыя ў вас шоламы што заняпалі?

Што замоўклі ў вас Ляцкія дзіды з шчытамі?
Полю загарадзеце вароты страламі

Вы за Рускую землю, за Ігара раны,
Сьвятаславіча буйнага—зьдзекі ў паганых!

## IX

Ўжо бо Сула не цячэ ручаінай
К Пераяслаўлю быстрай, срабранай;
Дзьвіна ўжо балотам цячэ бязупыну
Да Палаўчан, пад воклік паганаў.

Адзін Ізяслаў толькі—сын Васільковы
Сам пазваніў мячамі сваімі
Аб шлёмаў літоўскіх стальныя аковы,
Ускалыхнуўшы днямі былымі.

Свайму пераняў славу дзеду Ўсяславу,
Сам пад чырвоным шчытам пабіты
Мячамі літоўскімі, лёг на крывавай
З Хоцьцем траве. А кажа тады той:

— „Дружыну тваю апранулі, князь, крыльлем
Птахі, а зьверы кроў палізалі!"
Ня быў тут брат Брачыслаў, над кавыльлем,
А ні другі—Усяволад. У жалі

Адзін ён жамчужную з храбрага цела
Выпусьціў душу праз ажарэльле.
Заныла гамонка, вясёласьць зьнямела,
Трубы ў Гародні смутна запелі.

Яраславе і ўнукі вы ўсе Усяслава!
Апусьцеце ўжо сьцягі свае,
Пахавайце мячы пашчарбаны, бо слава
Ужо дзедава вас не спаўе!

Вы бо сваркай сваёй напусьцілі
Скрозь паганых па Рускай зямлі—
Па надзеле Ўсяслава, з чаго і насільлі
Ад зямлі Палавецкай пайшлі.

У сёмы Траянавы век
Уздумаў Ўсяслаў варажыць
Аб мілай дзяўчыне сабе,
Што з славай яго заручыць.

Пусьціўшыся ў хітрыкі, ён
На борздага ўсеўся каня
І скочыў, памчаўся чым-сьвет
Да Кіева-града, дадня.

І кіеўскі дзідаю там
Пасад дакрануў залаты;
Ад іх скочыў зьверам лютым
З Белгорада ў поўнач; тады

Ахутаўся сіняю мглой,
А раньнем, узьняўшысь да зор,
Навограду браму лязом—
Сякераю насьцеж адпёр.

Разьбіў Яраслававу там
Прыдбаную славу мячом
І скочыў праз поле і лог
К Нямізе з Дудутак ваўком.

На Нямізе снапы сьцелюць
Галавамі,
А малоцяць-жа стальнымі
Іх цапамі.

На таку жыцьцё кладзецца
Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.

Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;
Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй.

А былі яны гусьценька
Ў процьмах вузкіх
Там засеяны касьцямі
Сыноў Рускіх.

Усяслаў князь людзям суд судзіў,
Гарадамі князёў надзяляў,
А сам поначы, сьвету на зьдзіў,
Ваўкалакам ці воўкам гуляў.

Ён бо з Кіева да пятухоў
Горад Тмутаракань дасьцігаў
І вялікаму Хорсу бяз слоў
Воўкам шлях борзда перабягаў.

Таму ў Полацку рана званы
Пазванілі ў Зафеі сьвятой
Да завутрані,—ён-жа праз сны
Ужо ў Кіеве звон чуе той.

Хоць і вешчая, кажуць, душа
Ў дзёрскім целе ягоным была,
Але часта бяды без нажа
Нацярпеўся, што доля дала.

Яму першаму вешчы Баян
І прыпеўку дасьціпна злажыў:
„Хітры, быстры, ні птах той быстран
Суду божага не пержыў!“

О, стагнаці ўжо Рускай зямлі,
Як успомніць князёў з былых пор!
Уладзімера таго не маглі
Прыкаваці да кіеўскіх гор.

А цяпер яго сьцягі нішто:
Адны Рурыку славу шумяць,
А другія—Давідавы ўжо...
Але стужкі іх розна вісяць.

## X

Пяюць дзіды на Дунаі,
А ў Пуціўлі Яраслаўна
Бязуцешнаю зязюляй
Наракае раным-рана:

„Паляту я ў даль зязюляй
Па Дунаю за дубровы,
Памачу ў рацэ-Каяле
Рукавок я свой бабровы.

„І зьляту да князя ў полі,
Дзе ў зялёнай лёг пасьцелі,
Ды крывавыя ўтру раны
На яго магутным целе“.

Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сьцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

„О, вецер, вятрыска!
Чаму, ўладар, лётам
Сваім гэтак вееш
У вочы сіротам?

„Чаму ты на крыльлях—
І вольны і сьмелы—
На мужніх ваякаў
Мчыш ханскія стрэлы?

„Ці-ж веяці мала
Табе пад аблокі—
Ў гары, ў паднябесьсі
Шырокім, далёкім?

„Або ў сінім моры
Лялеяць, гайдаці
Чаўны з караблямі
Да ціхае гаці?

„Чаму ты, ўладару,
Мне радасьць асіліў,—
Вясёласьць разьвеяў
Па дзікім кавыльлі?“

Праслаўна рана плача
У Пуціўлі на сьцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

„О, Днепра Славуціч!
Ты ў каменных горах
Праз Полаўцаў землі
Дол высек у мора.

„Кабякаву войску
Чаўны Сьвятаслава
Сабой ты лялеяў,
Акрылены славай.

„О, мне прылялей-жа,
Ўладару, ў харомы
Саколіка-мужа
З зямлі незнаёмай!

„Каб сьлёзаў я рана
Ў тузе нябывалай
К яму цераз поле
На мора ня слала!“

Праслаўна рана плача
У Пуціўлі на сьцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

„О, сьветлае сонца!
Трысьветлае! Ўсюды

Цяплом і красою
Ясьнееш, як цуды.

„Чаму-ж, уладару,
Свой промень пякучы
На мужняе войска
Нанесла, ня ждучы?

„На полі бязводным
Ты смагай пагнула
Ім лукі, а тугай
Заткала утулы?!“

## XI

Пырснула мора на поўнач,
Сьмерчы ідуць чарадой;
Ігару князю дарогу
Знача бог чорнаю мглой:

Знача з зямлі Палавецкай
Шляхі да Рускай зямлі,
Дзе жджэ на Ігара доўга
Бацькаў пасад дарагі.

Патухла вячэрняя зорка.
Князь Ігар і сьпіць, і ня сьпіць—
Ад Дону вялікага думкай
Да Дону малога бяжыць.

Апоўначы сьвіснуў савою
Аўлур на каня за ракой,
Уцяміць загадвае князю,
А Ігар князь зьнікнуў, як стой.

Той клікнуў—зямля загручэла,
Трава зашумела быльлём;
Упуд Палавецкія вежы
Спалохаў, зварушыў жыльлём.

А князь Ігар ужо гарнастаем
Паскакаў па траве к трысьнягу,
На вадзе выплыў гогалем белым,
На каня узваліўся ў бягу.

І саскочыў з яго босым воўкам,
Пакаціўся да логу Данца,
Й паляцеў сакалом пад імгламі,
Забіваючы там без канца

На сьняданьне, абед і вячэру
Белых лебедзяў, шэрых гусей.
Як ляцеў сакалом гэтак Ігар,
Тады воўкам Аўлур з сілы ўсей

Пакаціўся, сьцюдзёныя росы
Абтрасаючы вокал сабой...
...Коні быстрых сваіх падарвалі,
Лятучы пуцявінай пустой.

І кажа рака-Донец: „Ігару-княжа!
Ня мала во бітвы далі
Вялічча табе, а Канчаку дакукі,
А радасьці Рускай зямлі!“

А Ігар-князь кажа: „О, Донча! Ня мала
Вялічча сабе ты прыдбаў,
Што князя на хвалях лялеяў і шчыра
Зялёну траву падсьцілаў

„Яму на сваіх берагох серабраных,
І цёпла атуліваў мглой
Пад ценем зялёнага буйнага дрэва,
Ды пільна сьцярог з цемнатой.

„Яго на вадзе сваёй гогалем белым,
А чайкай паверх ручаёў,
Ды качкай-чарнедзяй на ветрах шумлівых
Паказываў сьцежку і вёў.

„А Стугна-рака ўжо куды не такая,
Худы бо ў яе перацёк:
Чужыя папіўшы, глынуўшы крыніцы
І хвалі разьліўшы—дзе ўток,

„Яна маладому князю Расьціславу—
Бяз часу і не на дабро—
Пры беразе цёмным наскрозь зачыніла
Дарогу сабой на Дняпро.

„Тужыць Расьціславава маці і плача
    Па князі сваім маладым...
А кветкі заныл, а дрэва са смуткам
    К зямлі пахілілась благім“...

Ой, не сарокі ўстракаталі!
А гэта Ігаравым сьледам
Гза з Канчаком у побач едзе,
Як па жніво сусед з суседам.

Тады ўжо груганы над косьцьмі
Ня грумкалі, і галкі змоўклі,
Не сакаталі і сарокі,—
Па лозах распаўзьліся, моклі...

Па лесе тукатам няўтомным
Сьлед дзятлы к рэчцы адбіваюць,
А салаўі вясёлай песьняй
Блізкое раньне выйгрываюць.

І гаворыць так Гза Канчаку:
— „Калі сокал ляціць у гняздо,
Залатымі страламі сваімі
Мы застрэлім сакольца яго!“

А Канчак-жа адказвае Гзе:
— „Калі сокал ляціць да гнязда,—
Краснай дзевай сакольца тады
Мы апутаем,—што за наўда!“

А Гза кажа на то Канчаку:
— „Калі дзеваю краснай яго
Мы апутаем, то ўжо тады
Мець ня будзема мы ні таго

„Маладога сакольца ў сябе,
А ні краснае дзевы, ды нас
На палёх Палавецкіх пачнуць
Кляваць птахі ў нявеселы час!“

## XII

сказаў-жа аб днёх Сьветаслава
Той Баян-песьнятворца старын
І далёкай пары Яраслава
І Алегавых даўных часін:

„Хоць і цяжка табе многасьмелай
Галаве без плячэй у людзёх,
Але трудна й табе жыці, целу,
Без сваёй галавы на грудзёх!“

Так і Рускай зямлі ненарокам
Цяжка мераць бяз Ігара дні.
Сонца сьвеціць на небе высокім,
А князь Ігар на Рускай зямлі.

Красны дзевы пяюць на Дунаю,
Галасы іх плывуць і лятуць
Неўгамонна ад краю да краю,
Цераз мора да Кіева йдуць.

Ігар едзе праз спуск Барычоўскі
К абразу Пірагошчы сьвятой.
Рады князю староны і вёскі,
Гарады весяляцца з сабой.

Пеўшы песьню старым князём, справам,
Потым пець маладым песьняй бур:
Сьветаславічу Ігару слава!
Слаўся храбры Ўсяволад буй-тур!

İ Ўладзімер, сын Ігара воя,
Малады князь—на страх Палаўчан!
İ князём і дружыне здароўя,
Выступаючым за хрысьціян,

У няведамай дзікай краіне,
Пашматаўшы паганых палкі.
Слава буйным князём і дружыне
На далёкія векаў-вякі!“

# ГАЛЬКА

## ОПЭРА Ў ЧАТЫРОХ ДЗЕЯХ

СЛОВЫ ЎЛАДЗІМЕРА ВОЛЬСКАГА
МУЗЫКА СТАНІСЛАВА МАНЮШКІ

*Пераклад з польскае мовы*

## АСОБЫ:

СТОЛЬНІК

ЗОФ'Я—яго дачка

ЯНУШ

ДЗЕМБА—прыхлебнік стольніка

ЁНТАК }
ГАЛЬКА } сяляне з вёскі Януша
ДУДАР }

ГОСЬЦІ спаміж шляхты, вясельная дружына, сяляне, гаране, гаранкі, службіты і г. д.

Рэч дзеецца ў XVIII сталецьці.

## АКТ I

*У горадзе ў доме стольніка.*

*Бакавая заля; у глыбі трое высокіх шкляных дзьвярэй, якія вядуць на агарод; з аднаго боку ад гледачоў відаць прыадчыненыя дзьверы да балёвай залі, з другога—стол, за якім бяседуюць госьці і стольнік. Дземба, клапочучы, напаўняе келіхі. З балёвай, ярка асьветленай залі іншыя госьці выходзяць парамі палёнэза і кружацца па залі.*

### СЦЭНА ПЕРШАЯ

СТОЛЬНІК, ДЗЕМБА і ХОР ГАСЬЦЕЙ

ДЗЕМБА

Хай жывуць нам маладыя.
Ў дзень заручын іх вітаем.
Хай як галубочкі тыя
Вечна любяцца наўзаем.

То-ж бо лучацца кляйноты,
Два адвечнай славы цноты
У вадно звычаем даўным:
Адравонжа ды з Памянам.

ХОР

Віват! Віват! маладыя!
Каб дзянькі век залатыя
Вам рунелі, як руно.

Два адвечныя кляйноты,
Знамя муства, знамя цноты,
Слаўна лучацца ў адно.

ДЗЕМБА З ХОРАМ

Аж душа расьце, як глянуў,
Што за пара, бы заранка.
Як-бы створана для Яна
Наша Зоф'я Стальнічанка.

НЕКАЛЬКІ СПАМІЖ ГАСЬЦЕЙ

І абое роўны станам
І багацьцем нязьлічаным.
Хай ім шчасьце сыпе кветы!
Хай жывуць даўгія леты
Адравонжа ды з Памянам!

СТОЛЬНІК

Мілай брацьці дзякуй наша,
Прыязьнь іх вядома нам.
Чаркі ўверх! Здароўе ваша!
Любімося!

ХОР

Шчасьця вам!

*Дземба з хорам выходзяць, крычучы яшчэ: „Хай жыве"!*

## СЦЭНА ДРУГАЯ

СТОЛЬНІК, ЗОФ'Я і ЯНУШ

*уваходзячы з залі*

ЯНУШ

Багаслаўі, пане войча!
Бо ўжо сьмею зваць вас так.

ЗОФ'Я

Добрацьваша ў тым прычынай,
Што я шчасна нябы як.

*Разам*

Багаславі, пане войча!
Просьба наша к вам ядына.

СТОЛЬНІК

Я даўно ўжо меўся ўдвойчы
Вас злучыці гэткім чынам.

ЗОФ'Я і ЯНУШ

Багаславі, мілы войча!

СТОЛЬНІК

*багаслаўляючы*

Хай-жа воля твая, божа,
Война неба збудзецца!

*Чуваць за сцэнай сьпеў*

Як той ад віхру куст паламаны,
Душачку гэтак зматала.

ЗОФ'Я

Што там за сьпеў?

*Сьпеў за сцэнай*

Дзе ты, вяночак, дзе ты, руцяны,
Дзе ты, лілейка, ў ім зьвяла?

ЗОФ'Я

Гэткі жальбяны
Той сьпеў. Хто-ж гэта, хто?

*Сьпеў за сцэнай*

Усё забраў мне Янка, мой сокал,
Усю мяне ўзяў маладую...

ЯНУШ

*зьбянтэжаны да Зоф'і*

Знаць ня знаю...

*На бок*

Хто прынадзіў
Бедну дзеўку тут на зло?

*Сьпеў за сцэнай*

А я шукаю, шукаю вокал,
Яго знайсьці-ж не магу я...

СТОЛЬНІК

Што за песьня ў маім садзе
У час гэты, вось дзіўно!

ЯНУШ

*на бок*

Голас Галькі! Як у чадзе,
Бедна дзеўка, і пашто?
Або можа звар'яцела?..

ЗОФ'Я

Яне мой, што гэта знача
Гэта песьня жалю, плачу?

СТОЛЬНІК

Гэта вельмі ўжо засьмела.

*Хоча ісьці ў сад. Ян яго стрымлівае.*

ЯНУШ

*узрушаны, да Зоф'і*

Разам:
О, так, любы мой анеле!
Песьня гэтая гавора:
Вось нам радасьць і вясельле,
А ёй смутак, а ёй гора!
Сьпеў нядолі там,
Выйду, гляну сам!

ЗОФ'Я

*да сябе*

Разам:

Што за радасьць і вясельле,
Які-ж добры яго нораў,
Што так шчыра, так на дзеле
Яго раніць братне гора.
Сьпеў нядолі там,
Што азваўся нам.

СТОЛЬНІК

Гэта сьмеласьць, гуз на целе!
Але, як завыла гора,
Трэба помач даць у пору.
Слушна, слушна, нам вясельле,
А нядоля там!
Выйдзі глянуць сам.

*Выходзіць з Зоф'яй, якая з залюбаваньнем пазірае на Януша.*

## СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

ЯНУШ

*адзін сумны і неспакойны*

*Recitativo*

Скуль прыплялася сюды ня ў пору?
Ці-ж пекла яе ўжо нясе?
Хоць яе жальба цяжкай мне зморай,
Ды ўжо запозна, ўжо збылося...
І сэрца іншай аддалося...

Га! а можа сьлёзы гора
Супыняцца, як уймуся...
А пасьля прэч, прэч!
Я сьлёз баюся!

*Сьпеў*

Чаму мне ў хвілях самотных гэных,
Калі нас сэрца любіць заве,
Яе твар блiснуў, як цьвет праменны,
З ружовых вуснаў ўсьмешкай таемнай,
З-пад бровак доўгіх зраніцы дзьве?

Чаму раптоўна душа забурліла,
Як ад віхуры бег рэчных хваль?
Што мне сіротка гэта ўчыніла,
Каб жальба вечна яе сьлязіла,
Каб праз мяне век гнаў яе жаль?

## СЦЭНА ЧАЦЬВЕРТАЯ

ЯНУШ, ГАЛЬКА

*ўваходзіць, ня бачачы яго спачатку.*

ГАЛЬКА

*Сьпеў*

Як той ад віхру куст паламаны,
Душачку гэтак зматала.
Дзе ты, вяночак, дзе ты, руцяны,
Дзе ты, лілейка, што зьвяла?

Усё забраў мне Янка, мой сокал,
Ўсю мяне ўзяў маладую.
А я шукаю, шукаю вокал,
Яго знайсьці-ж не магу я.

Дзе ты, ах, дзе ты, о, мой саколе,
Дзе маё сонца на небе ясным?
Як сьцяты колас на дзікім полі,
Так без цябе я загасну.

*Адварочваецца, спасьцярогшы Януша, з крыкам радасьці бяжыць да яго і хапае за руку*

О, пане!
Мне Ёнтак гэты

Цьвярдзіў бяз спыну,
Што ўжо мяне ты
Згубіў, пакінуў...

А я во бачу, к табе тулюся,
І ты, як колісь, ка мне зьвярнуўся,
Даеш мне сэрца, сэрца сваё.
О, мой саколе! о, сонца маё!

ЯНУШ

*на бок*

Праклята хвіля! Ах, як тут лгаці?
Яе мне сьлёзы муцяць жыцьцё...

*Да Галькі*

Здарма твой гэты плач, нараканьне!
Няўжо цябе я згублю, затрачу?!
Аддаься толькі. Ўвагі мей болей,
Бо не хачу я, каб дзядзька бачыў.
Сьмела, ня бойся. Ніхто, ніколі
Ня вырве з сэрца маё ўчуцьцё.

ГАЛЬКА

*з парывам*

О, мой саколе! сонца маё!

ЯНУШ

*зьлёгка адсоўваецца*

Ах, супакойся ты, дзіцё!
Ці-ж я забуду, цябе затрачу?..
Хутчэй кінь гэтыя муры,
Чакай за местам, над Віслай там,
Дзе крыж на шляху, каля фігуры,
Прыду я ў міг, прыду я сам...
А посьля ўжо вярнёмся там—
Да нашых гор. Там знова нам
Шчасьце і рай...

ГАЛЬКА

*паўтарае за ім радасна*

...Да нашых гор і знова нам
Шчасьце і рай...

ЯНУШ

З кім прышла ты?

ГАЛЬКА

*не зважаючы*

О, мой саколе!

ЯНУШ

З кім прышла ты?

ГАЛЬКА

*не зважаючы, яшчэ радасьней*

О, маё сонца!
О, добры пане! Зноў гэткі сам!

ЯНУШ

*падганяючы*

Ідзі адсюль! Прыду я там!

ГАЛЬКА

О, пане,
Добры, любіш ты мяне?..

ЯНУШ

Бяжы адсюль, прашу цябе!

ГАЛЬКА

Праўда? Ўжо мяне ня кінеш!
Ў горы вернешся, ня згінеш,
Саколе мой!
Там я сяду над крыніцай
І чакаць буду й журыцца
Аж прымчыцца ўраз.

Тады будзем жыць суполам
Век з табой, з маім саколам,
Хіба сьмерць разлучыць нас!

ЯНУШ

*неспакойна*

Так! З табой не разлучуся,
Ў нашы горы я вярнуся,
Анёле мой!
Сядзеш там ты над крыніцай,
Чакаць будзеш і журыцца,
Аж вярнуся ўраз.
Тады будзем зноў суполам,
Зноў з табой, з маім анёлам,
Хіба сьмерць разлучыць нас.

*Прыцісnуўшы яе да грудзей, выводзіць у сад, зачыняе ўсе трое дзьвярэй і задуманы йдзе ў залю. Госьці затрымліваюць яго ў дзьвярах.*

## СЦЭНА ПЯТАЯ

ЯНУШ і ГОСЬЦІ

АДНЫ З ГАСЬЦЕЙ

Пане млоды! Што ў самдзеле?!
Трэ' гуляць, калі вясельле.

ЯНУШ

*з прымусам*

Я ўжо вам служыць гатоў...

ДРУГІЯ ГОСЬЦІ

*абступаюць яго, цішэй*

У чапцы радзіўся, пане,
Цуд—ня Зося, як іскра!

ЯНУШ

*задуманы, падаючы ім руку*

Дзякую, дзякую!

НЕКАЛЬКІ З ГАСЬЦЕЙ

Разьвялі тут віншаваньне,
А музыка грай здарма...

## СЦЭНА ШОСТАЯ

### ТЫЯ-Ж і СТОЛЬНІК

*трымае Зоф'ю пад руку. Дземба са срэбным жбанам і адзін з гасьцей, які трымае ў руках вялікі Зыгмунтаўскі келіх. У дзьвярах ад залі паказваецца некалькі жанчын.*

ХОР

*з паклонамі да Стольніка*

Ой, спачыці, Стольнік, час!
Вашмасьць нам не папушчае,—
Корміць, поіць, угашчае
Пакнязёўску нас.

АДЗІН З ГАСЬЦЕЙ

*выпіўшы келіх, аддае яго Дзембе*

За гаспадара здароўе!

ХОР

Ой, спачыці, Стольнік, час!
Вашмасьць нам не папушчае,
Корміць, поіць, угашчае
Пакнязёўску нас!

ДРУГІ З ГАСЬЦЕЙ

*да якога піў папярэдні*

І радні яго шляхотнай...

СТОЛЬНІК

*узрушаны, пушчае руку Зоф'і, кланяючыся ўсім ад сэрца шапкай*

О, наймільшыя панове!
Аж мне робіцца маркотна,
Нейкі жаль душу асіліў,
Што вас столькі ў гэтай хвілі,
Ганаруе так мой домік!..

*Са сьлязьмі*

І ўзяць к сэрцу захацелі,
Што ядыны той патомак
Майго роду па кудзелі,
Ў нашым, пане, ўдоўім стане,
Хутка бацьку асамотніць,
Як палучыцца ўжо з Янам...

ЯНУШ і ЗОФ'Я

*схіляюцца яму да ног*

Войча, любы!

СТОЛЬНІК

*падымае іх*

Мая дочка, мае дзеці!..

*Да гасьцей весялей*

Дык, панове, хто ахвотны—
Просім далей, бяз прыганы.

ХОР

Віват! Віват!

СТОЛЬНІК

*ахвоча*

А вы моладзь, хто мне верыць,
І хто любіць, ну, ў абцасы!

Да ружанца і да танца!
Як было ў даўныя часы.

ХОР

Віват! Віват!

ДЗЕМБА

*сьціха да Стольніка*

Пане Стольнік, то-ж у залі,
Як-бы ў лазьні, так агніста!
Каб і тут мо' паскакалі?

СТОЛЬНІК

Мой Дзямбочак, ачавіста!
Раіш добра ў самым дзеле!

ДЗЁМБА

*ў дзьвярах залі*

З мазавецка! Рэж капэля!

*Чуваць з залі музыка, граючы мазурку; улятаюць танцуючыя пары. Дземба далей абходзіць з келіхам і са жбанам, які яму службіты час ад часу напаўняюць. Пасьля кожнага тосту чуваць „віват". Стольнік з Зоф'яй і некалькімі гасьцьмі—жанчынамі і мужчынамі—сядаюць. Януш за імі стаіць задуманы.*

*ЗАСЛОНА.*

# АКТ II

*Прысады ў садзе. З правага боку відаць асьветленыя вокны ў доме Стольніка. У глыбі мур і фуртка. Галька ходзіць паміж дрэвамі. Ноч.*

## СЦЭНА ПЕРШАЯ

ГАЛЬКА

*сама*

*Recitativo*

О, як кленчыць-бы хацела
Ўжо пад крыжам, ля дарогі!
Каб гарачых сьлёз нябогі,
За вяночак мой цярнёвы,
Маці боска з Чанстаховы
Сваёй ласкай пажалела.
Бо я-ж—бедная сірота
Многа, многа так цярпела.

*Па хвілі, азіраючыся вокал*

А дзе-ж Ёнтак?
Там гулянка, там вясёласьць!—

*Чуваць музыка з дому*

А тут ноч.

*Па хвілі весялей*

Ён пакіне іх, саколік,
Ў горны вернецца зноў край.

Дзень і ночка—мне маркотна,
Пакуль буду ждаць нясьмела,
А як прыдзе—прыдзе рай!

*Сьнеў*

Каб мне раным-рана ўзьняцца над палянай,
Ластаўкай пад небам мігаць, як маланка!
Каб мне ў рэчцы рыбкай да цябе мкнуць тамка,
Да цябе, мой Янка!

Ні я ў рэчцы быстрай плаваюча рыбка,
Ні я маю крыльле ластавачкі шыбкай,
Віхар толькі ў горах баіць бязустанка:
Вернецца твой Янка!

Каб мне зоркай яснай ў скалах над крыніцай,
У душы і сэрцы там тваіх адбіцца,
Блудным аганьком хоць, што так бледна зьзяе,
Як мая сьлязінка, што к табе сплывае!

А ні мне ў крыніцы блыскаці адлюднай,
Ні я тая зорка, ні я вогнік блудны,
Плыве толькі енк мой, плыве па расінах,
Жаль цябе дзяўчына!

## СЦЭНА ДРУГАЯ

ГАЛЬКА, ЁНТАК

*шукае яе паміж дрэвамі.*

ЁНТАК

Галька! Галька!

ГАЛЬКА

*прыбягае да яго*

І што-ж мяне ты, бедную, зводзіў,
Як дзеля сьмеху,

І адбіраў мне ў цяжкай нягодзе
Ядыну ўцеху?
Яго я зблізка бачыла, чула,
Майго сакола!

*З пэўнасьцю*

І вернецца ўжо, і не пакіне!

ЁНТАК

Бедна з сэрцайкам ты кволым!

ГАЛЬКА

Чуць не замерла на сьмерць яно так
З жалю мне, беднай...

*З лёгкім нараканьнем*

Ах, мой ты Ёнтак, і што-ж было так
Мучыць дарэмна?

ЁНТАК

*крыху з насьмешкай*

Ха-ха-ха!..

ГАЛЬКА

*зьдзіўленая*

Сьмяешся ты? Зьбяжым адсюль!

ЁНТАК

Дык жыва прэч!—

ГАЛЬКА

*азіраючыся неспакойна*

Так дзіўна ў гэтай шумнай мясьціне,
Так неяк страшна сельскай дзяўчыне!
Ня відна як, ня відна, скуль
Сонейка ўсходзіць;

Ня відна як, ня відна, дзе
Сонца заходзіць.
Так цёмна ноч! Так мучыць, страша
Халодны мур—і жудка мне!
Хутчэй туды—дзе горы нашы
Сьняжыста льсьняць. Ён жджэ мяне
За местам там! Што?—сьмех табе?

ЁНТАК

Дык пабяжым, калі жджэ нас
І прыдзе там.

*Сьпеў*

І ты йшчэ верыш яму, дзяўчына,
Што ён ня зводзіць на сьмех людзям!
Як віхар сьвішча над катлавінай
І як з гор льлецца ў дол ручаіна,
Так ён зманіў, што пойдзе там,—
А ты йшчэ верыш яму, дзяўчына!

ГАЛЬКА

Веру, веру я!

ЁНТАК

У любасьць ня вер панічову
К беднай сялянцы, ты ня вер!
К табе падойдзе з салодкай мовай,
З яснай усьмешкай, як дзень маёвы,—
Сэрцам ён—сталь, на сьлёзы—зьвер!
А ты ўсё ў любасьць вер панічову!

ГАЛЬКА

Ёнтак, ты—злы!

ЁНТАК

Купіў, як нечысьць, ён тваю душу,
Ён—пан, паноў-жа любіце вы!
Калі цябе, як дождж ыку ў сушу,
Я смагнуў мець, а ён: мець мушу!—
Сказаў, зірнуў—і яго ты!
Забраў вяночак, забраў і душу.

О, мая Галька, бедна дзяўчына!
Што ён ня зводзіць—верыш яму?
Як віхар сьвішча над катлавінай,
Як з гор ліецца ў дол ручаіна,—
Так ён зманіў, ня будзе тут,—
А ты ўсё верыш яму, дзяўчына!

*Па хвілі*

Думаеш, што мы прышлі сюды,
Каб ты шчасьліва, каб ты вясёла
Убачыла Янку, свайго сакола?

*Паказваючы ёй асьветленыя вокны*

Там Янка—пан!
З той пекнай паняй, што бачыш там,
Вясельле п'е,—а ўсё як пан!

*Чуваць за сцэнай хор гасьцей.*

І абое роўны станам
І багацьцем нязьлічаным.
Хай ім шчасьце сыпле кветы,
Хай жывуць праз доўгі леты
Адравонжа ды з Памянам!

ГАЛЬКА

*непарушаная спачатку на голас хору, нарэшце, уцямлівае, зрываецца і ўдарае ў дзьверы.*

ГАЛЬКА

*што раз гвалтоўней удараючы ў зачыненыя дзьверы*

Пушчайце, гэй, хутчэй мяне!
Бацька майго тут дзіцяняткі!—

ЁНТАК

*адцягваючы яе*

Зьбяжым адсюль да хаткі!
Убачаць цябе!—

ГАЛЬКА

Пушчайце, гэй, хутчэй мяне!

*Да Ёнтка, молячы яго на каленях*

Да пана, да пана,
Браток, вядзі мяне!

ЁНТАК

Ўбачаць цябе,
Скрыўдзяць цябе!

## СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

ТЫЯ-Ж, ХОР ГАСЬЦЕЙ, ХОР СЛУЖБІТАЎ *са сьвятлом* і ДЗЕМБА

ХОР

Што тут за крык,
Скуль гэты клум?
І гэты ўвесь
Што знача шум?

ДЗЕМБА

Гэй, выгнаць іх!

ХОР

Прэч, гэй, прэч з забавы!
Сказаць там чалядзі
Хай дадуць ім стравы,
Хай за стол пасадзяць,
А з забавы прэч!

## СЦЭНА ЧАЦЬВЕРТАЯ

ТЫЯ-Ж, ЯНУШ

*убягаючы.*

ЯНУШ

*дае знак рукой*

Што тут?

*Хор адступае ў глыб, Януш зблізжаецца да Галькі.*

ЯНУШ

*сьціха*

Табе-ж казаў я, цябе-ж прасіў я...
Чаго-ж яшчэ ты?

ГАЛЬКА

*смутна на яго спазірае, хапаецца раптам з упрокам за галаву і моўчкі сядае на лаўцы.*

ЁНТАК

*выходзіць наперад сцэны, пакорна кланяецца Янушу*

Панок,—то я!

ЯНУШ

*пазнаўшы яго, з прыдушаным гневам*

І скуль-жа ты вясьці пасьмеў
З далёкіх гор няшчасную дзяўчыну?
Што? Ў вёсцы там ня добра вам?
Што? Ей там крыўда?
Кажы, чаго хацеў?

*На бок*

Праклятый хам!
А гэта знова звар'яцела.

*З гневам*

Бяры яе, хутчэй вядзі яе!
Падзяку пан, знай, дасьць, як споўнім дзела.

ЁНТАК

О, пане наш, мей літасьць ты!
Ей бацька ўмер, сяйбіт сівы,
І ўжо даўно ў зямлі сьпіць маці...
За сіроткай бог, бог толькі сам—і капля сьлёз!

*Цішэй*

А людзі людзьмі—кпяць і сьмяюцца там...

*Хвіля маўчаньня, раптам з насьмешлівай пакорай*

О, добры пане! Жудка з доляй ёй!
Адплаціць вам бог за літасьць у няшчасьці.

## СЦЭНА ПЯТАЯ

ТЫЯ-Ж, НЕКАЛЬКІ ГАСЬЦЕЙ, СТОЛЬНІК і ЗОФ'Я

*Януш бяжыць ім на спатканьне і кажа, што Галька вар'ятка.*

ГАЛЬКА

*звольна ўстаючы*

Сьпеў

Паціхеньку, памаленьку
Затуманіў галубочка!
Паціхеньку, памаленьку
Затуманіў сакаленьку!
Стуманіў яго!

ЗОФ'Я, СТОЛЬНІК, ДЗЕМБА і ХОР

Дзіўна нейка дзеўка,
Смутна яе сьпеўка!
Выйсьці загадалі,
А пяе ўсё далей—
І ёй хоць-бы што!

ЁНТАК

*з папярэднімі*

Бедна, бедна дзеўка!
Смутна твая сьпеўка
Сэрца не разбудзіць.
Шчасьлівыя людзі
Любяць толькі сьмех!

ЗОФ'Я

*ўважна прыглядаючыся да Януша, які неспакойна глядзіць на Гальку*

Выгнаць загадай!

ЯНУШ

*Адварочваецца да Галькі і дае знак рукой Дзембе*

ДЗЕМБА

*да Галькі і Ёнтка*

Пашлі адсюль!

ХОР

Прэч адсюль з забавы,
Ідзеце да дворні,
Прымуць там пакорне,
Там дадуць вам стравы,
А з забавы прэч!

СТОЛЬНІК

А во дзіўна рэч!
Дземба мой ласкавы,
Клікні іх да дворні,
Хай дадуць ім стравы,
А з забавы прэч!

Разам з хорам

ЁНТАК

О, нам не забавы,
А ні ў вашай дворні
Не жадаем стравы!
Сам бог нас прыгорне,
Пойдзем самі прэч!

ЗОФ'Я

*на старане што раз пільней прыглядаецца да Януша*

Ня хочуць да дворні!
Погляд яе млявы,
Знаць сярод забавы
Мучыць Янку зморне—
Дзіўна, дзіўна рэч!

Разам з хорам

ЯНУШ

*на бок*

Бог з нябёс ласкавы
Хай яе прыгорне!
Але ў час забавы
Ўлез хам гэты зморне,—
Хай-жа пойдуць прэч!

*Галька з Ёнткам звольна адыходзяць.*

*Абраз.*

*ЗАСЛОНА.*

# АКТ III

*На вёсцы ў Януша.*

*Паміж другім і трэцім актам праходзіць месяц.*

*Гарыстая і скалістая вясковая аколіца; вечарам на захадзе сонца. З аднаго боку гледачоў высунуты рог карчмы, каля якой сядзяць на лаве некалькі гараняў і гаранак; некалькі сядзіць на горах і скалах. Іншыя ўваходзяць з другога боку. Чуваць здалёку няшпорны (на вячэрню) звон.*

## СЦЭНА ПЕРШАЯ

ХОР СЯЛЯН

По вячэрні у нядзелю,
Покуль сонца сьвеціць ясна,
Добра думку разьвяселіць,
Бо дзень цэлы сходзіць ў поце.
Хай-жа сьвята падахвоціць,
Каб забыці крыўды ўласнай!

МОЛАДЗЬ

Вось паніч з сваёй багданкай
К нам прыедуць мабыць скора,
А як будзе ў іх гулянка,
Дык і нас успомняць можа.

СТАРЫЯ

Хоць там будзе ў іх гулянка,
У бядзе нам не паможа,
Бо за намі сьледам гора.

УСЕ

Ой, за намі сьледам гора!

*Па хвілі*

Дык вясёлы, дык ахвочы
Дзень сягоньня хай нам будзе!
Заўтра знова дзень рабочы
І пазаўтра дзень рабочы.
Посьле йшчэ ў цяжэйшым трудзе,
Посьле йшчэ ў цяжэйшым трудзе.
Дык вясёлы, дык ахвочы
Дзень сягоньня хай нам будзе!

## СЦЭНА ДРУГАЯ

ТЫЯ-Ж і НЕКАЛЬКІ СЯЛЯНАК

СЯЛЯНКІ

Паніч добры! ён бяз думы
На вясельле спросіць кумы.

СТАРЫЯ

Ой, дзяўчаткі, ой, кабеткі!
Ловіць вас паніч у сеткі.

СЯЛЯНКІ

Бо паніч даброці рэдкай...
Гладкі гэткі, ўкладны гэткі.

СТАРЫЯ

О, прыкладны, добры ў слове,
Гладкі з твару, як панове—
Ой, кабеткі!

МОЛАДЗЬ

*у глыбі сцэны*

Дык ахвочы
Хай дзень будзе й весялейшы!

УСЕ

Сонца гасьне, блізка к ночы—
І шчыт гор ужо чарнейшы,
І ў душы сам свабаднейшы,
Але поруч і смутнейшы.
Дык вясёлы і ахвочы—
Хай дзень будзе нам бліжэйшы!

НЕКАЛЬКІ

*седзячых на горах*

Во з другой ідзе ўжо вёскі
І з кірмашу мноства люду.

## СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

ТЫЯ-Ж, *прыбываюць* ГАРАНЕ, ГАРАНКІ *і розныя* СЯЛЯНЕ

ПРЫБЫЛЫЯ

Хай-жа будзе пахвалёны!

МЯСЦОВЫЯ

На векі!

*Пры вітаньні частуюцца гарэлкай. Горскія танцы з малым дадаткам кракоўскіх. Скончыўшы, тыя, што прыбылі, расходзяцца, мясцовыя застаюцца.*

## СЦЭНА ЧАЦЬВЕРТАЯ

ТЫЯ-Ж, ЁНТАК *паволі выходзіць з гор з* ГАЛЬКАЙ

ХОР

Зірнеце, што там?
Што за хлапчук пляцецца з дзеўчай?
Га! То-ж Ёнтак! А дзяўчына?

ЁНТАК

Няхай будзе пахвалёны!

ХОР

На векі!

ЁНТАК

Дай бог радасьць вам!
Ды, як гора,—не паможа!
Няма песьні там.—

ХОР

То-ж Галька!

ЕНТАК

Так—яна!
З таго сяла дзяўчук.

ХОР

Скуль-жа, Ентак, ты прыходзіш,
Дзеўча гэта скуль прыводзіш?

ЁНТАК

Ў паніча быў я у месьце.

ГАЛЬКА

*звар'яцелая*

Ў паніча была я ў месьце.
Не пазналі мяне ўрэшце,
Бо зьмянілась, бо як птах.

*Сьпеў*

На маю бяду, нядолю
Прыляцеў пашто на поле?
Пашто звабіў галубочка
І стуманіў, мой саколе,
Беленькага галубочка?
Стуманіў яго!

ХОР

Як зьмянілась, як змарнела,
Аж глядзець ня ўсьцерп людзям!

ЁНТАК

От, звычайна, панскі хлам!
Так кончацца заляцанкі.
Паніч сьніць з сваёй каханкай,
Стальнічанкай—гладкай паняй,—
Аб мужычцы-ж ані ў дум!

ГАЛЬКА

Ён душы з ёй не спаганіў,
Ня даў чорту!

ХОР

Скажы нам, Ёнтак, як было там?
Як гэта сталась, скажы ты нам!

ЁНТАК

Прышлі туды мы ў заручын часе,
Як яе ўбачыў—міла прыласіў
І ўсяляк стаў лгаць на словах,
І кідаць чары свае нанова,
Пасьля за места йсьці меў з ёй.
Ня мог я зьнесьць маны тых слоў,—
Сказаў ёй праўду, а тут нас ён
Сказаў за браму прагнаць, як псоў.

ХОР

*з жахам*

Сказаў за браму прагнаць, як псоў!

*Хвіля маўчаньня.*

ГАЛЬКА

Зноў мне зьявіўся, туманіш зноў,
Сакалочак!—не, не, не!
Галубочак над гарамі
Зашумеў сваймі крылкамі,
Дый ня беленькімі імі,
А крывёй сваёй зьлітымі
Зашумеў ён там крылкамі
Ї ў дол рынуў, як той камень.

ХОР

Так яно для дзяўчатаў,
Што ў двор мкнуць гуляць заўзята,
Гэткая доля іх!

ЁНТАК

Вось не задоўга паны на шлюб
Зваляцца шумна ўсёй чарадой.

ХОР

Гляньце! Ўзьляцеў груган над гарою,
Як быццам сочыць.

ГАЛЬКА

*скончыўшы песеньку*

З галубкі труп.

ХОР

Ня ты, нябога, зграшыла срога,
Бо на кім іншым ляжыць твой грэх.

ЕНТАК

*усходзячы на скалу*

Вось і едуць!

ХОР

Ужо едуць!

*Ідуць у горы.*

*ЗАСЛОНА.*

## АКТ IV

*Позны вечар. Пляц абсаджаны вербамі. З аднаго боку ад гледачоў драўляная вясковая каплічка з магілкамі, з другога—відаць частка двара, далей вясковыя хаты, у глыбі горы і скалы, паміж якіх уецца рэчка.*

### СЦЭНА ПЕРШАЯ

ЁНТАК

*адзін выходзіць з гары*

*Recitativo*

Няшчасна Галька! Гвалтам тут прэцца,—
Ці-ж мала крыўды для яе сэрца!
Усё на думцы паніч няверны.

Як яго з жонкай тут пабача,
Ўмерці гатова!
О, Езу міласэрны!
З нябёс зірні,
Сіротку мей пад аховай!
Ад зьдзеку ўбарані!

*Па хвілі*

Каб яе там сутрымалі,
Бо ня мог я.

## СЦЭНА ДРУГАЯ

ЁНТАК і ДУДАР

*у глыбі сцэны ўсходзіць на гару і пачынае весела йграць.*

ЁНТАК

Гэй, дудару! Скуль-жа ўраз
Гэтак весела зайгралі?

ДУДАР

Павітаць трэ' шлюб, вашэце!

ЁНТАК

*ківаючы рукою*

Яшчэ час!
Неяк лепей разумеці,
Як смутней пачнеце граці.

ДУДАР

*зьмяняе песеньку, пытаючы*

Нашым ладам?

ЁНТАК

О, так, браце!

*Сьпеў*

Ой, шуміць лес на гор шчыце,
Ой шуміць у даль,
А малойцу смутна жыці,
Бо на сэрцы жаль.
З-паміж іншых праз нікога,
Праз цябе адно, нябога,
Ой, Галіна, ой ядына,
Дзяўчына мая.
У дзіцячы яшчэ леты
Я да горскіх скал

Шоў у пропасьць і табе там
Птушкі з гнёзд скідаў.
Кветкі лепшыя з гор нашых
Рваў табе і нёс,
Найпякнейшыя з кірмашу
Пацеркі прывёз.
Ня крыўдую на нікога,
На цябе адно, нябога,
Ой, Галіна, ой, ядына,
Вінавата ты!
Вырастае з зерня колас,
Ты ўзрасла, як цьвет.
Ой, на твой званочак-голас
Зрушыў-бы я сьвет.
Год за годам сьпёкай, слотай,
Як паводка мкне,
Зірк паніч—і для яго ты
Кінула мяне.
Ня крыўдую на нікога,
На цябе адно, нябога,
Ой, Галіна, ой, ядына,
Дзяўчына мая!

## СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

ТЫЯ-Ж і ГАЛЬКА

*шыбка зьбягае з гор, вырываючыся ад гаран і гаранак, што яе стрымліваюць.*

ЁНТАК

*да яе, жыва*

Ах, выйдзі, Галька! Паслухай мяне!

ГАЛЬКА

*ўпарта*

Не!

ЁНТАК

*хочучы яе вывесьці*

Я так не пазволю.

ГАЛЬКА

*вырываецца ад яго і сядае на камень*

Мяне ўбачыш, мой саколе!

*Дудар падае знак, што вясельнікі прыбліжаюцца; усе сяляне сыходзяцца на сцэну.*

## СЦЭНА ЧАЦЬВЕРТАЯ

ТЫЯ-Ж і ДЗЕМБА

ДЗЕМБА

Добра, што тут грамадою!..
Прывітаць-жа галасіста,
Пакланіцца урачыста
Новай пані.

ХОР

Прывітаем галасіста
І паклонімся ўрачыста.

## СЦЭНА ПЯТАЯ

ТЫЯ-Ж, СТОЛЬНІК, ЯНУШ, ЗОФ'Я

*уваходзячы па чарзе*

ДРУЖКІ і ДРУЖБІТЫ

*Цямнее*

СТОЛЬНІК

*уваходзячы*

Добры дзень вам, мае людзі!

ХОР

Дзякуй, дзякуй, ягамосьцю!

ЯНУШ

*уваходзячы*

Як здароўе, як жывеце?

ХОР

Дзякуй, дзякуй, панічок, вам!

ЯНУШ

*спасьцярогшы Гальку, на бок*

Моцны божа! Яна тут!

ЗОФ'Я

*уваходзячы з дружкамі*

Як жывецца?

КАБЕТЫ

Дзякуй, дзякуй вам, паненка,
Дзякуй, дзякуй, пані!

ДЗЕМБА

*да сялян*

Што? Ці вам зраслася губа
Каб вітаць? Як скамянелі!
Як я Дземба, гэрбу Дзюба,
Громка, бо вам...

УСЕ

Прывітайма-ж, бо вясельле!
Дзякуй, дзякуй вам, паненка,
Дзякуй, дзякуй, пані!

ЗОФ'Я

*спасьцерагаючы Гальку*

Што за такая бледна дзяўчына?

ХОР

Бледна дзяўчына?

ЗОФ'Я

І з тварам смутным, маўклівым?

Х

І з тварам смутным, маўклівым.

ЯНУШ

*на бок*

Ці-ж яе йшчэ не пазнала!

Разам

ЗОФ'Я

Скуль гэта бедна дзяўчына
І з тварам смутным, сумлівым?
Будзіць твар гэты ўспаміны,
Ах,—помню—страчаўся мне!

СТОЛЬНІК

Ах, што за бедна дзяўчына,
Глянь, Дэмба, з тварам сумлівым?
Будзіць твар гэты ўспаміны—
Здаецца—страчаўся мне.

ЯНУШ

*на бок*

Ах, каб яе не пазнала!
Дрыжу ўвесь з злосьці напраснай.
Пашто ўбачыў я няшчасну?
Ах, пашто ўбачыў яе?

ЁНТАК

*на бок*

Пазнала, пэўна пазнала.
Глядзіць на яго, о, божа!

Можа згадае, ах, можа,
Можа пагардай датне!

ЯНУШ

*на бок*

Ах, каб яе не пазнала!
Дрыжу са стыду, з трывогі
І ад сьлёз гэтай нябогі.
Ганебна я зьвёў яе.

ХОР

Пазнала, ўсё-ткі пазнала,
О, вы—нящчасны абедзьве.
Адну пакінуў з вас ледзьве,
А ўжо другую вядзе.

ГАЛЬКА

Над маім горам зьлітуйся, божа,
І атулі апекай сваей!

УСЕ

*апроч Януша*

Голас вар'яткі кліча да бога,
Божа, апекай збаві сваей!

ЗОФ'Я

*да Януша*

Ці помніш? Бачыла яе.

ЯНУШ

*зьбянтэжаны*

О, так, так, маё каханьне!
Як ня помніць воблік гэты?
У вачох жыцьця кананьне,
Думка з болем мкне ў засьветы.

ГАЛЬКА

Янка! Янка!

ЯНУШ

*на бок болесна*

Страшна бог караць умее
Хвілёвы блуд!

*Па хвілі*

Зоф'я мо' не зразумее—
Жыва, жыва
Пойдзем мы!
Памагчы беднай
Мне не па сіле.

ГАЛЬКА

Галубок сеў на магіле.

ЗОФ'Я

Што цябе так жаль асіліў?

ЯНУШ

*падганяючы, перабівае*

Ах, ідзема да касьцёла!
Час ужо, ўжо мрок дакола!

ЗОФ'Я

*тулячыся су плачом да бацькі*

Войча! Смутак нечаканы
Маё сэрца болем змог.

СТОЛЬНІК

*узрушаны*

Тваім сэрцам муж абраны—
Хай пашле вам шчасьця бог!

*З вясельнай дружынай, апрача Дзембы, з усьпёртай галавой на плячо бацькі, Зоф'я з Янушам уваходзяць у касьцёл.*

## СЦЭНА ШОСТАЯ

ГАЛЬКА, ЁНТАК, ДЗЕМБА і ХОР

*праводзячы маладых і дружыну.*

ХОР

Дай вам бог даўгія леты
І жыцьцё у шчасьці!
Хай вам доля сыпе кветы,
Радасьць...

ЁНТАК

*на бок*

І напасьці.

ДЗЕМБА

Хто абазваўся там?

ХОР

Ніхто!

ДЗЕМБА

Дык во далей, жыва нам!..
І да пары і вясёла
Маладых аплесьці ў кола,
І да пары і урачыста,
Нам запеці галасіста,
Як вярнёмся...

ХОР

Запяема вам вясёла.

*Усе, апроч Галькі і Ёнтка, уваходзяць у касьцёл.*

## СЦЭНА СЕМАЯ

ГАЛЬКА і ЁНТАК

*Што раз цямней.*

ГАЛЬКА

Ой, вясёла, ой, вясёла!

ЁНТАК

Дык во, бачыла, во чула!
Мо' цяпер паверыш мне!

ГАЛЬКА

*прытомней*

Дзе мой сокал? Янка дзе?

НТАК

*паказвае на касьцёл*

Глядзі—там!

ГАЛЬКА

*гледзячы*

Ах!

*Вяртаецца, валіцца на зямлю. Ёнтак становіцца блізка каля касьцельных дзьвярэй.*

ЁНТАК

*да Галькі*

Ля аўтара сталі разам!
Ксёндз чытае, яны сполам
Яму ўтораць, а з выразам
Кожным плача маладая,
А той Янка рад, вясёлы.

ГАЛЬКА

Шкода Янкі, і такая
Мяне шкода! А ты-ж, Ёнтак,
Чаму мучыш так мяне?

ЁНТАК

*не зважаючы*

Цяпер персьцень ён ёй даў,
А яе—ўзяў, толькі жонка
Яго плача, а ён, браце,
Так вясёлы, як бываў.

ГАЛЬКА

Ой, каб ты, мой Ёнтак, знаў,
Што у сэрцы тут кіпіць,—
Ажно боязна казаці.

ЁНТАК

Ўжо! Ўжо!

*Убягае ў касьцёл.*

ГАЛЬКА

Ўжо!

*Хоча бегчы, у гэту хвілю чуваць песьня, якая яе стрымлівае.*

## СЦЭНА ВОСЬМАЯ

ГАЛЬКА

*сама*

*Што раз цямней.*
*Песьня з касьцёла.*

Войча з неба, божа, пане!
На зямлю пашлі тут нам
Ты сьвятое зьмілаваньне,
Войча з неба, божа, пане!

ГАЛЬКА

*зрываючыся раптам*

Га! Дзіцятка наша
У хатцы вяне, ўмірае.

А маці тут, а бацька там!
Цягне дзіця ручаняткі
І жаласна спазірае—
А маці тут, а бацька там!
І птах драпежны піскляткі
Карміць, калыша і туліць,
Мае-ж дзіцятка ўмірае!

O, мой салоўка!
Хто-ж у дамоўку
Ўбярэ цябе?
Спаўе цябе?
Хто закалыша
На сьмерці сон?

А сэрца дзе? ты, Янка, дзе?
А сьлёз крывавых ручай жывы...
Я адамшчу, спалю цябе,
Бо сэрца вельмі скрывавіў мне,
Бо маці я, жонка твая,
Заб'ю цябе,—ці чуеш ты?

*Бяжыць ашалеўшы, зьбірае хвораст і салому, якія рассыпаны па пляцу, зрывае некалькі вербавых галінак і запальвае ад лямпы перад касьцёлам.*

ХОР

*з касьцёла*

Божа моцны, сьвяты божа!
Ты над намі зьлітуйся,
Бо твая-ж рука ўсё можа,
Божа моцны, сьвяты божа!
Праз твайго сына мучэньні
У бядзе нас пажалей,
Уймі сьлёзы і цярпеньне,
Божа ўладны, літасьць мей!

ГАЛЬКА

Га!

*Кідае запалены пук хворасту ў раку, які з сыкам гасьне, а сама су плачом валіцца на калені. Месяц асьвятляе блакіт.*

Божа моцны, літасьць мей!
Божа, хвала для цябе!

*Па хвілі, адкінуўшы злосьць*

Ці-ж мне забіці—хапіла-б змогі
Цябе, мой Янка, мой пане?

Даруй, ах, сьлёзам тваей нябогі,
Дзіцяткі нашай скананьню.
Жыві шчасьлівы з сваёй каханкай,
З тэй пекнай паняй радуйся ты!
І памаліся часам за Гальку
О, Янка! Дарую табе віны!

*Бяжыць у горы і з крыкам кідаецца ў раку.*

## СЦЭНА ДЗЕВЯТАЯ

ЁНТАК *і ўсе іншыя, што ўвайшлі былі ў касьцёл, апрача* ДЗЕМБЫ *і некалькіх дружбаў, выбягаюць.*

ЁНТАК

*не пабачыўшы Галькі, бяжыць неспакойны з некалькімі гаранамі на скалы*

Галька! Галька! Божа!

*Раптам кідаецца за ёй у ваду.*

ХОР

Ўжо запозна, ўжо запозна!
Утапілася ужо!

ЯНУШ, СТОЛЬНІК і ЗОФ'Я

Хто ўтапіўся?

ЁНТАК

*змучаны, задыхаўшыся, уносячы труп Галькі з распушчаныміваласамі*

Галька!

ЯНУШ

*з праразьлівым крыкам*

Галька!

*Узьбягае на скалы над ракой і кідаецца ў ваду.*

## СЦЭНА ДЗЕСЯТАЯ

ТЫЯ-Ж і ДЗЕМБА

*з некалькімі дружбамі цяпер толькі выходзяць з касьцёла.*

ДЗЕМБА

*да люду*

Надышоў цяпер во час
Паном кланяцца вясёла,
І запеці песьню ўраз.

ХОР

*сумна*

Запяем яе ўвакола.

*Відаць на чаўне на рацэ мёртвую Гальку, пры ёй Ёнтак падае руку Янушу, які з вады ўзьбіраецца на човен.*

*Абраз.*

*ЗАСЛОНА.*

ЗЬМЕСТ.

## ТВОРЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

ЗБОР ТВОРАЎ, том І-шы („Жалейка“, „Гусьляр“). 280 стар. Менск, 1925 г.

ЗБОР ТВОРАЎ, том ІІ-гі („Шляхам жыцьця“). 354 стар. Менск, 1926 г.

ЗБОР ТВОРАЎ, том ІІІ-ці („Раскіданае гняздо“, „Тутэйшыя“, „Паўлінка“, „Прымакі“). 298 стар. Менск, 1927 г.

ЗБОР ТВОРАЎ, том IV-ты („Сон на кургане“, „Адвечная песьня“, „На папасе“, „Песьня аб паходзе Ігара“, „Галька“,— перакл.). 226 стар. Менск, 1928 г.

ЗБОР ТВОРАЎ, том V-ты („Спадчына“). Менск, 1928 г.

СПАДЧЫНА, збор вершаў, 224 стар. Менск, 1922 г.

БЕЗНАЗОЎНАЕ, збор вершаў, 104 стар. Менск, 1925 г.

АПАВЯДАНЬНІ ВЕРШАМ, кніжка І-ая, 48 стар. Менск, 1926 г.

АПАВЯДАНЬНІ ВЕРШАМ, кніжка 2-ая, 48 стар. Менск, 1926 г.

МАГІЛА ЛЬВА, поэма, 44 стар. Менск, 1927 г.

ЭРОС І ПСЫХА, сцэнічная аповесьць у 7-мі разьдзелах Ю. Жалаўскага. Пераклад з польскае мовы. *(Прыгатавана да друку).*

**У перакладзе на расійскую мову:**

Янка Купала, белорусский поэт. ИЗБРАННЫЕ СТИХОТВОРЕНИЯ В ПЕРЕВОДАХ РУССКИХ ПОЭТОВ, 112 стар. Масква, 1919 г.

